**Цана асобнага нумэру 5 кап. (10 грошэй).**

**№ 1.**

Вильня, 1 сецтября 1906 г.

Год I.

# Наша Доля

першая белоруская газэта для вёсковага и местовага рабочага народу.

**ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами.**

Адрэс рэдакции и администрации: *Вильна, Виленская вулица 32*

**Цана**: з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—**3 руб.**, на 6 месяцоу—**1 руб. 50 кап.**, на 3 мес.—**75 кап.**, на 1 мес.—**25 кап.** Без дастауки и перасылки: на 1 год — **2 р. 40 к.**, на 6 мес.—**1 р. 20 к.**, на 3 мэс.—**60 кап.**, на 1 мес. — **20 кап.** За границою: на 1 год—**4 руб.**, на 6 мес.—**2 р.**, на 3 мес.—**1 руб.** Перамена адрэсу—**20 кап.**

АБЪЯУЛЕННЯ прыймающця на наследняй страницы па **20 кап.** за линейку пэтиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамильею и адрэсомъ таго, хто яе присылае. Адрэсъ тольки для ведама Рэдакции.

## Наш палетак.

Наш палетак памиж межау,
З-за каторых цвяце збожа;
А наш скравак штось залежау;
Наш загон зысци ня можэ.
Ци то глеба да ничога?
Ци то руки у нас слабые,
Што ня маем й зерня свога,
Што мы ходзим як сляпые?
Глеба чорна, у руках сила,
Тольки нашых гаратаяу
Некасць мара усё звадзила
Гэн замежы да выраяу.
Наш сявец не раз там кидау
Залатое зерне з жмени,
Ён не раз там плёны выдау.
А у нас расли камени.
Наш палетак негараны,
Палынами цвяце нива.
Нука, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто гараци добра зможэ,
Хто разоры скоро ладзиць,
Хто шчасливе сее збожа,
Хто гароды добра садзиць
Жыво, жыво за работу
Без аглядки хто што можэ.
Усе роуны без расчоту
Усих праца будзе згожа!

*Мацей Крапиука.*

## Да чытацелёу.

Прачхнууся з цяжукаго сну народ, падняуся як рэка на вясну за вяликае дзело свабоды и лепшае доли. Тольки з пад стрэхи цёмное хаты мужыка беларуса як дауней, як сотни гадоу таму назад веець холадом магильнаго сну. Там нядоля, цямнота и голад, яго прадауные вороги, звили сабе крэпкое гняздо, разраслися, распладзилися. Бывали таки и гэтакie минуты у гисторыи апошних гадоу, што прасыпауся и беларус.

Галодны и цioмны будзiуся ён з цяжкаго сну и дзивавауся, и слухау як з далёкаго свету з усих старон лящели да яго развалиушаеся хаты радосные весьци аб зямли, аб сва-

бодзи. И палюбиу йон гэту свабоду, як роднoе дзиця свае, жыу йою, сниу аб йой у сваих думках и, смутным вокам наглядаючы у закрытае хмарами небо, з далёких старон прызывау яе у свой родны край.

Свабода не прыхадзила.

Але трудна было разстацца з думками аб счасци, и мужык пастанавиу заваевацъ гэту свабоду, што у пыл развеяць абецалася царство цямноты, и йшоу йон заваевацъ сабе зямлю, што хлебом пшаничным абецалася накармиць яго. И гдзе тольки ступила нага яго—з дымам йшли панские палацы, свисцели нагайки и кули, лилася нявинная кроу, вырастали тысячы магилау...

А свабоды ня было, бо блудзиуйся мужык, збиваус я з дароги, бо цёмныу быу йон, бо цёмна было кругом.

Усим, хто меу адвагу заглянуць у нашэ жыцціо, сэрцы кроую сплывали гледзячы на усё гэта. И начали людзи шукаць прычыны нашае нядоли. Шукали у книжкох, пыталиу самого жыцця. И усюды быу адзин адказ: „Дайце беларусу такую книжку, каб йон зразумеу, што у йой написана. Тольки книжка, написаная на мови бацькоу яго, патрапиць сноп свету закинуць у цяжкое жыццio беларуса, тольки яна патрапиць холад и голад выжануць з мужыцкае хаты, токьки яна пакажэць яму дарогу да лепшае яснейшае доли!“

Мы паслухали гэтаго голасу—выдаем „Нашу Долю“. Якая будзе яе праграма—згадаць лягко. Писаць яе мы будзем для вioски и будзем бараниць справы вiосковых людзёу. Личучы найбольшым нашым ворагом цямноту и бязпрауное палажэнне мужыка, мы объяуляем вайну усим цёмным силом, каторым дзеля карысци своёй вяликая выгода была трымаць восьмимильённы народ беларусски у ня доли и паневерцы, баламуциць и дурыць яго.

У дзисейшы вялики момэнт, кали усе народы государства Расейскаго, абъявиушы вайну старым парадком, напрагаюць усе свае силы, каб дабицца свабоды и лепшае доли, мы будзем разам з ими.

Цяжская и трудная выпала на «Нашу Долю» работа.

Мы верым, што шчырые прыяцели вяликае народнае справы памогуць нам у гэтай рабоци. Мы маем надзею, што пры их помочы «Наша Доля» разыдзецца далёка па усей нашэй мацци зямлицы Беларуской, пры их помочы у «Нашэй Доли» мы патрапим вывясци на свет Божы усе нашы справы, усе нашы думки, усю нашу долю-нядолю...

Мы верым у святосць народнае справы, мы верым у помоч нашых прыяцелёу!

---

# Што будзе?

Што будзе далей?—вот пытанне, каторае як востры клин вбиваецца у голову кожнаго чэлавека, зганяець з вока сон, не дае спакою.— Што будзе далей?—так пытаюцца памещеки у сваих палацах, так пытаюцца мужыки у сваих курных хатах, так пытаецца уся працавита бедната и, з трывогай и надзеяю спаглядаючы у заутрашни дзень, чэкае таго вяликаго момэнту, кали сонцэ свабоды засвециць и над нашым абездоленым краем.

Каб атказаць на гэта пытанне, трэба бличжэй прыглядзецца на поступ выпадкоу апошняго часу.

Усим ведама, што для успакаення народу, каторы йшоу силаю дабываць зямлю и свабоду, правицельство объявило, што яно хочэ нярамяниць старые парадки и дзеля таго скликае Гасударственую Думу. Народ паверыу правицельству и паслау сваих выборных людзей, каб яны у Думи дабыли яму зямлю, свабоду и лепшую долю.

И чэкау народ гэтае доли, и веры, што яна прыйдзе...

Дума сабралася. Зъехалися у Пецербурх прасеяные праз дзесяць ситок народные дэпутаты. Увесь свет слухау, што скажуць яны. И яны загаварыли, загаварыли аб цяжкой нядоли, аб цямноци, аб безпраую... Земля и свабода патрэбны народу, гаварыли дэпутаты, бяз них нима счасьця народу, нима доли; бяз них адно цемнота и галодная смерць...

Правицельство разагнало Думу. Яно гэтым ясна паказало, што не дасць народу ни зямли, ни праудзивае свабоды.

И народ зразумеу гэта. Зразумеу ён, што пасля разгону Думы засталося яму одно з двух: або так як дауней прападаць з голаду, або самаму памыслиць аб сваёй доли. И ён выступиу на бой за счасьце усей працавитай беднаты.

Збунтавалися матросы и салдаты у Кронштаци, у Рэвлю. Тры дни развевауся чырвоны штандар над сценами збунтованаго Сбэаборгу; бунтавалися салдаты и па других гарадох Расеи. Паднялись работники, паднялись па вёсках мужыки. Усюды льецца кроу. Ахфяры рэволюцыйнаго розруху падаюць з абодвых старон. Што дзень гинуць ад куль и бомб палицэйские, чыноуники, жандары. губэрнаторы. Праз адно тольки лета у гэтым гаду, як объявило правицельство, згинули таким парадком вось якие высшые чыноуники: камандзир чэрнаморскаго флоту адмирал Чухнин, што усмирау бунт матросоу у Сэвастополи; самарски губэрнатор—Блок; Варшауски генерал-губэрнатор Вонлярлярски; памочник варшаускаго генерал-губэрнатора да палицэйских спрау—генерал Маркграфски; камандзир лейб-гвардии семёноускаго палка-генерал Мин, што усмирау у дзекабры месяцы паустанне у Маскве. А скольки што дзень забиваюць гарадавых, стражникоу, жандароу и иншых палицэйских чыноуникоу—трудна и паличыць. Па усей Расеи што дзень бунтоущыки забираюць казёные грошы з казначэйств, почт, манаполек на вайну з правицельством.

Правицельство науводзило усюды ваенное палажэнне, надзвычайную и усиленую ахрану, але мала з таго было карысьцы. И вот цяпер правицельство зноу объяуляе, што за земельные бунты будзе без литосьцы разстрэливаць мужыкоу, что за убийства ды грабежы будзе судзиць военно-палевым судом, каторы карае або смерцью, або каторжными работами; яно павеличыло кару за намову салдатоу не стрэляць у народ,—и штож з таго? Ничого и гэта не памагае и не паможэ таму, бо цяпер бунтаущык—увесь стомильённы цёмны, галодны народ. Правицельство кроую залило цэлы край и думало гэтым успакоиць народ. Але штыками и кулями можна прыдушыць народ, можна з усей Расеи зрабиць адну вяликую магилу, а не упрауляць живыми людзьми. Кроу забитых братоу трудна забыць; слёзы их удоу и сорот не даюць спакою ни у дзень, ни у ночы.

Не, штыки и нагайки не успакояць народу! Для успакаення народу ёсць адна тольки рада: споуниць тое, чаго дамагаецца народ, даць уласць народным выборным, даць агульное, простое, роуное и тайное выборное право. Тольки тады настане спакой, тольки тады пачне народ жыць лепшаю, счаслиушаю долей!

Калиж правицельство не захочэ паслухаць воли народу, то далей будзе вайна, далей будзе лицца кроу...

А што з гэтаго выдзе?—цяперака ужо легко згадаць!

---

## Присяга над крывавыми разорами.

Быу цёплы асенни дзень. Нивы циха адпачывали пасля летняе працы. Цёмны лес шэптауся у глыбокой задуми. Буслы тужлива ляцели на вырай.

Гэтаго дня моркотны и згорблены пад цяжкаю хмараю невясёлых дум ледзьвеледзьве поуз стары Мацей у поле. „Галава балиць—рук ни зняць“, бурчау ён пацягиваючысь. „Дзяцей дагадавауся, а адпачыць некали и не заким“.—Так ён сам сабе жалиуся.

Прауда, у Мацея было трох сыноу: аднаго узяли у маскали, други паехау да Пецербурга шукаць хлеба, трэци пайшоу за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкаю и двома малодшыми дзеучатками астауся у хаци на сваёй гаспадарцы.

Бедната, адзиноцтва, силы ужо ня тые—а раби и раби, працуй бяз конца... Мардасовичу за лён, Бизуноускаму за пашу, а там и за бульбу плужы и плужы што дзень на адработках, так што свае хоць и вузка, и лында, але и то нехват часу у пару засеяць. Ось и цяпер суседзи ужо дауно пасеяли и пабаразнили, а Мацей тольки першы дзень выйшоу на свае и то быу хворы.

Аднак, перэмагаючы сябе, насыпау жыта у фартух, наплевау у жменю, чэрпануу зернят и з славами „Радзи, Божэ!“ сыпануу зерне на чорную глебу.

Зернята замигацели на рали. А Мацей стаяу з пасалавеушыми вачами и шэптау:

„Не магу — надтаж галава балиць и сон морыць“... И не укладаючыся ани пасцилаючыся ён як стаяу, так и лёг, так и заснуу...

Спау як пласт у паперок загону з раскинутыми руками. Лицо было бледна, губы чорны ад смаги, дыхау ён часта и з якимсь хрыпом. Здалёк выглядау на чалавека, катораго вот-вот разкрыжавали и прыбили да зямли, и так ён паволи канае...

Мацей спау и сниу. Сниу ён, што сабралася моц народу на яго ниви: были там ма-

ладые и старые, и мужчыны, и кабеты, и дзеци—у рожных апратках, и усе крычали: „...Узка! Цесна! Мала!..

А Мацею здавалося, што и ён сам стаиць пасерад гэтаго народу и што усе чэкаюць, што и ён сам, Мацей, скажець; и што вот-вот к яго сэрцу падходзиць неки жаль и што ён так само пачынае крычаць: „узка! цесна! мала!..“

Аж здаецца выбегае сусед Астап, зациснуушы кулаки, и крычыць ещэ мацней ад Мацея:

„А скуль узяць?! Скуль дастаць?! Кажы! Скуль?!“

Тады захистауся народ и зароу: „Глядзице! Во—прасторы! Во нивы, лесы, паля! Усё гэта ваша!...

А Астап; „Лжэце! Неправуда! Не дадуць: то казеное, дворнае—ни я, ни вы не маем права! Не дадуць Пабьюць!“

— Вот далей здаецца Мацею, што з цьмы народу выходзяць яго тры сыны: парабок дворны, салдат и работник пецербургски, и становяцца на калены, и прысягаюць громка, ясна, паволи:

„Мы дамо! Мы сила—мы право!“

Мацей абливаецца потам, сэрцэ у яго бьецца... И здаецца яму, што усё гета спавиу туман: тольки разоры стаяць поуны крыви, а над ими висяць тры скрыжаваны далони... И раздаецца цихи ясны голас:

„Мы сила! Мы право!“

*Мацей Крапиука.*

# Усяго па троху.

## Як Крэсьцянски Банк прадае зямлю крэсьцянам.

Недауно правицельство пастанавило, што, каб памоч малозэмельным крэсцянами дабыць болей зямли, треба зрабиць гэтак:

Кресьцянски банк будзе купляць зямлю ад памещыкоу, каторые захочуць прадаць свае маёнтки, и гэту зямлю будзе прадаваць крэсьцянам. Крэсьцянски банк ужо пачау спауняць наказ правицельства. Праз 5 дзіон—ад 3 да 8 юля Крэсьцянски банк закупиу 60 маёнткоу на свой рахунок. Усяго зямли у гэтых маёнтках 63,463 (шэсьцдзесяць тры тысячы чатыраста шэсьцдзесяць тры) десяцины. За кожную дзесяцину банк плациць 126 рублёу, значыць за усю гэту землю заплачэно 8,029,150 рублёу.

Здаецца мужыком усё гэта добра—ёсць гдзе купиць зямли кольки трэба. Але па праудзи то не заусим так выходзиць. Кресьцяне, што купяць гэту зямлю, павинны за яе грошы разам з працэнтами выплациць праз 55 з палавиною гадоу, плацячы у год за кожную дзезяцину 7 р. 78½ к.

За увесь гэты час крэсьцянам прыдзецца заплациць болей як 20 мильёноу рублёу за 63,463 дзесяцины зямли, што варта цяпер трохи болей як 8 мильёноу рублёу. От тутака уся бяда. Плациць кожны год крэсьцянскому банку па 7 р. 78½ капеек з дзесяцины апроч усих налогау и падаткау, што трэба будзе плациць казне,—гэта для бедных мужыкоу надта цяжка. И выходзиць так: плациць мужык адзин год, други, трэци, чацьвёрти, а пасля саусим згалее, не заплациць раз або два у назначэны час и за гэта банк адбярэ зямлю або прадасць другому. И гаспадар, што меу мала зямли, зноу будзе цярпець голад на сваёй надта ужо малой гаспадарцы.

## Даходъ Расейскаго Цара.

Казна што год дае Цару 12,800,000 пэнсіи, значыць кожны месяц—выпадае болей як мильен, на дни, то усяки дзень Цар на сябе и свое семейство дастае 35,000 рубл.

Апроч таго цар маець шмат фабрык, лесоу и зямли 55,500,000 дзесяцин.

Кожное малолетнее царево дзитя бярэ 33,000 рубліоу пэнсіи, а як дойдзе да лет—мильён.

На утрыманне ж царавых сваякоу идзе доход з зямель удзельныхъ, каторых ёсць пакуль што 8,400,000 мильеноу дзесяци и каторые по прыкладу 1897 году дали 20 мильеноу рубл.

*(Naujoje Gadyne).*

## Выдатки на стражникоу и палицію.

Цяпер во усих министэрствах выличаюць, скольки трэба будзе грошэй на усе гасударственные выдатки у 1907 годи. Министэрство унутрэных дзел ужо выличыло, што на стражникоу у 1907 году пойдзе з народных грошэй 400,000 руб. Агульны расход на палицію будзе больш як двадцаць чатыры мильоны руб.

*(Нов. Вр.).*

# З Беларуси и Литвы.

**НОВАГРУДОК (Менск. губ.).**

У павеци Новагрудзком начала палиція прыцесняци сельских работникоу, каторые баставали летом.

З гэтаго самаго павету правицельство выслало восем вучыцелёу за агитацію памиж мужыкоу и за тое што яны раздавали чытаць забароненые писульки. Рэвидуючы некаторых вучыцелёу полиция знайшла выборски манифэст.

Усе вучыцели были жанаты и мусели пакинуць своих жонак и дзяцей без хлеба. Але тут мужыки заступилися за скрыуджэные сямейства и дали им зсыпку и памещэнне пакуль не вернуцца их высланые кармильцы.

— Усюды цяпер па віосках палиція арэштуе шмат людзей, найбольш крэсцян. Арэштуюсь больш усяго за забастоуки. З Новагрудзкаго павету пишуць, што там апроч забастоущыкоу нескольки крэсцян арэштавали за тое, што яны раздавали манифэст Думы, написаны у Выборгу пасля разгону Думы. (Сѣв.-Зап. Гол.).

**Пагарэльцы**, Новагрудзкаго павету. Грамадзки сход пастанавиу харчэваць на свой копт сямьи арыштованых крэсцян и не даваць квартеры казакам.

**З Лиды.**

На Зельну у Василискōй волосци зладзеи пакрали кони. Гаспадары хутко зглядзилися и пагналися следом за конокрадами. Зладзеи у Лиду—и гаспадары у Лиду, ды да палиціи з прозьбою, каб перэтрасци мястэчка. Аж спраунік сам выйшау да збядаваных госпадароу и сказау: „Не магу, братцы, я вам даць стражникоу, мне ихъ дау губэрнатор, каб сматрець за спокойствіем.“ Вышла тое, што гаспадары самы прыгнали злодзёу над скрыдэлка палиціи. А трэба ведаць, што па тую пару было вучэнне стражникоу и их зъехалося яких з семдзесят чалавек, так што ня тольки мястэчка, а цэлы павет маглиб нератрасци.

**ЖЫРМУНЫ Лидзкаго павету:**

У восени у прошлым гаду крэсцяне Жырмунской воласци пастанавили устроиць па вёсках свае школы, у каторых учыли бы дзяцей и па польску. Начальство не дазволило им зрабиць гэта. Дзеля таго усе крэсцяне згаварылися не пущаць сваих дзяцей у казёную школу и не даваць грошы на гэту школу.

У вучылищы ёсць вучыцель народны—неяки Данько, чэлавек нягодны. Заусягды йон ваевау з крэсцянами, рабиу им усё злое, што мог. Часта крэсцяне падавали жалобы на яго вучылищнаму начальству, але з гэтаго нияко̄го толку ня было. Данько застауся на сваим мейсцу.

За тое цяпер, як крэсцяне пастанавили не насылаць дзяцей у школу, вучыцель Данько написау данос начальству на самых бойчэйшых крэсцян и назвау их бунтоущыками. И цяпер палиця глядзиць на гэтых крэсцян як на праудзивых бунтоущыкоу.

Писали крэсцяне аб новых школах глауному министру Виттэ, але и тут ничого не дабилися. Скончылася уся справа тым, што вучыцель падау на крэсцян жилобу у суд. Цяпер суд прысудзиу прадаць дабро крэсцян, каб таким способом узяць ад их грошы на вучылищэ, з катораго нихто не карыстае. Цешыцца Данько, што таки прыцисну́й крэсцян, и чэкае, як гэта праз нескольки дзён споуницца прыгавор суда, як будуць забираць мужыцкое дабро... З яго пайшла у нас гэта беда, нехай жэ на яго упадзе и кара за яе.

Дзякаваць Богу, што таких нягодныхъ вучыцелёу мало ёсць у нашым краю.

**З над Вильи.** Сельскіе забастоуки были гэтым летом мало не усюды па берэгох Вильи у Виленской губэрни. Цяпер трохи прыцихли, але здаецца не надоуго. Чекаюць тутака вяликой забастоуки, як падыдзе капанне бульбы. Гэтай забастоукою крэсцяне хочуць дабицца таго, каб пагнила уся бульба, катора мае исци да бравароу на гарелку, каб таким парадком прымусиць пазакрываць усе бровары и не даць казне зарабиць на прадажы гарэлки.

Kur. Lit.

— У мястэчку Парафьяново 9 липеня (юля) сабрауся валастныы сход, каб выбраць дэпутата у паветовую зямельную камисію. Згаварыушыся памиж сабою на сходзи, кресцяне пастанавили **дэпутата не выбираць** и написали прыгавор, што не выбираюць яны сваго дэпутата дзеля таго, што земельные камисіи—гета штучка правицельства, катораму яны не верацъ и каторае давяло усих людзей да беднасьци, и што тольки ад Думы спадзеваюцца яны палепшення сваей доли.

— Як пишэ газэта «Северо-Западны Голос», памешыкам Виленской губэрни Вилейскаго павету панам Тукалло и Любанскому губэрнатор дазволіу купиць винтоуки и да их патроны для стражникоу, каторые назначэны пилнаваць маёнтки гэтых паноу.

**З надъ нёману.**

Разгон Думы задзивиу ганебне вёсковыхъ беларусоу и прыняволиу их крэпка, крэпка задумацца над тым што цяпер ёсць и што будзе...

Беларусы. прыбитые да вузенькаго кавалочка зямли, найбольш цикавяцца разшырэннем яго; вотож и думали яны што найважнейшым дзелам депутатау будзе вайна за землю. Дзеля таго, як правицельства разагнала Думу, кожны з мужыкоу сказау: „гэта за землю!“ И злосць закипела у сэрцы кожнаго и стали мужыки разпытываць; „Гдзе дэпутаты, што цяпер робяць“. А тут подайшоу и выборски манифэст, каб падаткау не плациць и рэкрутоу не даваць. Людзи пачали пытаць и талкаваць на рожные лады. Трэба прызнаць прауду што прызыу дэпутатау мае вялики послух серэд народу, и ня ведама ещэ чым скончыццца, як падыдзе набор и збиранне падаткау.

Трэба ведаць, што сама езда дэпутатоу да Выборгу разъяснила цёмным мужыком, што значыць констытуця. Бо простые людзи думали, што Выборг ёсць заграничны горад и што дэпутаты паехали таму у чужую зямлю, каб их не магло правицельства арыштаваць. Пасля даведалися,

што не, што Выборг так сама ёсць горад расейскаго гасударства. И вот тады кожны палажыу палец на губах и сказау: „А штож гэта такое?“

Але тут знайшлися и такие, каторые разталкавали, што Выборг ёсць горад у Финляндии, а Финляндія хаця и належыць да Расеи, але маець сваю констытуцю, а як ёсць констытуця, то ня можна чэлавека без пастанауленння суду арыштаваць и пасадзиць у турму, як гэта у нас робицца без усялякой патрэбы дый прычыны. „Ага!—сказали мужыки,—вотъ гэта добра!“

На новые-ж выбары людзи вёсковые глядзяць дваяка: адны кажуць, што ня трэба выбираць дэпутатау, бо и зноу разгоняць. А другие зноу цягнуць за выбары и кажуць: „будзем выбираць, але ужо выбярэм таких людзей, каторых не зможе разагнаць правицельства!“ *(Понедельник).*

**З Бельскаго павету Грод. губ.**

Да «Нашэй Доли» пишуць: 24 іюля (липеня) крэсцяне усей Кленикской волосци на валастным сходзи прыгавором № 8 пастанавили не споуняць стойковую павинносць пры становой квартэры. Тое самое ещэ раней пастанавили на валастных сходах крэсцяне Лосинской и Паулоуской валасцей.

**Гомель.** Да Люцына прыехау агитатор. Сабраутся у мястэчку вялики митинг (сход), каб паслухаць таго агитатора. Пачуушы гэта зъявилася на сход палиция, каб арыштаваць агитатора. Але сабраушыся народ не дау яго палиции, а сам яе арэштавау и не пущау з рук своих, пакуль агитатор ня скончыу гаварыць и не паехау. (Kur, Lit.).

З Быхова тэлеграфуюць: пяць волосцей выбрали дэпутатоу да зямельной камисіи, а пяць других пастанавили дэпутатоу не выбираць и не насылаць.

(Сев -Зап. Голос).

З **Татарска** (Могилёуской губ.):

Недауно сельская палиция арыштавала несколькi крэсцян. Як народ пачуу гэта, пачали биць у цэрконые дзвоны на трывогу; сбежалося кале тысячы крэсцян, арыштованых асвабадзили, а палицию моцна набили. Кажуць што стражники ад страху перад народом начали тут кидаць службу. Прыслана сюды войско.

(Volkszeit).

— У новоалександроуским павеци з намеж 32 волосцей выбирали дэпутатоу да земельных комиссіей тольки 9 волосцей, 23 волосци заявили, што тольки Госуд. Дума можэ пастанавиць, як надзелиць крэсцян землёю.

Але и з дэпутатоу тых 9 волосцей, каторые их выбирали, малая была карысць. Сабралися яны да паветоваго гораду и, згаварыушыся тут, пастанавили кинуць паветовые выборы и разъехалися да хат. (Эхо).

# Па Расеи.

**З палудня Расеи.** Газэци «Frankfurter Zeitung» целеграфуюць з Расеи: у палудзеной часци Расеи усе крэсцяне пастанауляюць не плациць падаткоу; чакаюць вяликаго бунту у гэтай агромнайчасци Расеи.

(Око).

— **У Кацельни,** Жытомирскаго павету мужыки не хацели каб разом з ними были стражники у цэркви. Усих выгнали вон, а аднаго дык надто крэпка збили парахвіяне. На стражникоу напау страх: адзин кинуу службу, а другіе так сама мусиць адрэкуцца ад начальникавання.

---

У мястэчку Рэшацилоуцы палтауской губ. стражник зарубіу на смерць мужыка. Усе мястэчковые людзи патрэбовали, каб им выдали винаватаго и каб вон вывели з мястэчка усю палицю. Прыстау выслау палицю, и тады усе успакоилися.

— Самарски губэрнатор данёс министру унутрэных дзел, што надта шмат стражникоу пакинуло службу. Стражники ня хочуць цяпер служыць дзеля таго, што прыходзицца им исьци проциу тых самых мужыкоу, з каторых и яны выйшли и каторые ваюкць за агульное мужыцкое счасьце и долю. Але ёсць ещэ и другая прычына, котора наганяе марозъ на стражникову шкуру: гэта прыгаворы сельских обчэств, кабъ стражники не дастали николи падушныхъ надзелоу зямли.

(Око).

**Сымбирск.** На мелекеской жалезной дарози нехто спалiй тры масты. Кажуць, што зрабили гэта крэсцьяне, каторым дарога ужо восем гадоу ня плоциць грошэй за крэсцянскую зямлю, забраную на гэту дарогу.

**НА КАУКАЗИ.**

Рэволюцыйны проциправицельственны розрух не сцихае. З гораду Кутаису 15 августа пищуць, што там арэштавали на вулицы свящэника каторы раздавау процивоправицельственные паперки. У гэтым самым горадзи у казіоной друкарни выдруковали сицилисты 36 тысячоу паперкоу.

— Начальник штабу тыфлискаго военнаго округа дастау тэлеграму ад камандзира другога Горско-Мухабскага полку, што 4 и 5 сотня яго полку, каторые были посланы у село Петроускос, адказалися стрэляць у народ, каторы хацеу асвабадзиць арыштованных агитатороу. (Око).

**З Кирылоускаго** уезду ноугородзкай губ. пишуць «Пецерб. Листку»: „У насъ збираць падатки начали военаю силай.

У сяло Ухтому зъявилася 16 стражникоу, узвод салдатоу, урадники—усе над камандаю испраунпка. Начальства заехала да хаты старасты, тут сабралися и крэсцьяне, каторых начальство пачало намауляць, каб плацили падатки. Але гэта ничого не памагло—крэсцьяне заявили, што плациць ничого ня будуць.

(Своб. Слово).

**У Владзимирской** губэрни крэсцяне ва многих месцох пастанауляюць ня пиць казёной гарэлки. У некаторых месцох разбиваюць манапольки.

(Своб. Слово).

## Авечы агитатор

Скрыпяць шубеницы, на астрогах духота, у Сыбиры нема месца!—И не дзивота!.. Бо кали пригледзишся да усихъ „унутрэных ворогоу“ правицельства, то ня тольки горка слеза запячецца на вачах, але часта и колька стане у боку ад чыстаго смеху.

Прымерам таки ворагъ: у Калужской губерни у Жыздрынском павеци недалека вёски пасьвилася быдла. Настау вечэр—пара ужо гнаць скацину да хаты. Пастух, замахнуушися пугаю, закрычау: „Ну, скацинка, падымайся, ад старых парадкоу адрэкайся!“—и заграу на дудцы „марсыльянку“.

Як раз у той час мимо ехау з казаками прыстау Лавров и Стой!“—закрычау строги прыстау на сваю дружыну. „Арыштоваць агитатора!“.

Кинулися тут да пастуха казаки, ухапили яго, беднаго, и пацягнули у астрог.

Вотъ вам и „унутрэны ворагъ“, вотъ агитатор серад бараних и валовых печеняу! Убояуся мусиць пристау, каб не пашоу рэволюцыйны розрух памеж авечак и целятъ вёсковых!

Бедны пастушок—скруцяць цябе у барани рог ды пашлюць куды у Сыбир. А не бярыся бунтаваць авечак: кали свине спяць, нехай спяць и авечки!..

## Наш родны край.

Край наш бедны, край наш родны!
Грась, балота ды пясок.
Цуць дзѣ троху луг пригодны...
Хвойник, мох ды верасок.
А туманы, як пяленка,
Засцилаюць лес и гай...
Ой ты, бедная старонка!
Ой, забыты Багам край!
Наше поле кепска родзиць;
Бѣдна тут жыве народ.
У грязи ен, бедны, ходзиць;
А працуе—льецца пот
Пазираюць нудна вески.
Глянешь—сэрца забалиць.
На дворэ—паленья, щески;
Куча сметнику ляжиць.
Крыж хваевы пры дарози;
Кучка тополеу сухих...
Сцишша, нудна, як у вастрози,
Як на могилках яких.
А як песня панясецца,—
Кольки у песни той нуды!
Уцякау бы, бег, здаецца,
Сам ня ведаешь куды.
Край наш родны Бедна поля!
Ты глядзишь, як сирота.
Нудна ты, як наша доля,
Як ты, наша цемнята!

*Якуб Колас.*

## Ад Редакціи.

*Просим вельмиповажаемых чытацелёу выбачиць нам, што перши нумэр «Нашей Доли» ня здолели выдаць так, як таго хацели. Найбольш прыкра нам, што нима у ём ничаго з зямельной гаспадарки. У других нумэрах гэтаго брaку ужо ня будзе. Просим писаць да нас, писаць аба усём што дзеецца, аб крыудах сваих и радосьцях, хто як умее. Кали патребна будзе каму якая парада—пытайцеся—аткажэмо. Ведайце добра што «Наша Доля» газэта вясковых людзоу.*

*Прысылаючи грошы просим писаць якое выданное «Нашое Доли» присылаць: ци друкованое рускими литэрами ци польскими.*

*Хто хочэ палучаць газэту просим паспяшыць з прысылкою грошу. Нумэр други «Нашое Доли» з прычын од рэдакціи незалежных выйдзець 14 сенцябра.*

Рэдактор-выдауца **Иван Тукеркес.**

# ОБЪЯУЛЕННЯ:



Типографія «**Артель Печатнаго Дѣла**», Вильна, уг. Большой и Рудницкой ул., д. Залкинда

**Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).**

**№ 2.** Вильня, 15 сенцябра 1906 г.

Год I.

# Наша Доля

першая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

**ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.**

Адрэс рэдакции и администрации: *Вильня, Виленская вулица 32.*

**Цана:** з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—**3 руб.**, на 6 месяцоу—**1 руб. 50 кап.**, на 3 мес.—**75 кап.**, на 1 мес.—**25 кап.** Без дастауки и перасылки: на 1 год — **2 р. 40 к.**, на 6 мес.—**1 р. 20 к.**, на 3 мэс.—**60 кап.**, на 1 мес. — **20 кап.** За границою: на 1 год—**4 руб.**, на 6 мес.—**2 р.**, на 3 мес.—**1 руб.** Перамена адрэсу—**20 кап.**

АБЪЯУЛЕННЯ приймаюцця на наследняй страницы па **20 кап.** за линейку пэтиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамилею и адрэсомъ таго, хто яе присылае. Адрэсъ тольки для ведама Рэдакции.

## Ад Рэдакции.

*Уселякіе грошы присыланые у Рэдакцію „Нашае Доли“, просим прысылаць канешне на имя Ефстафія Сымоновича.*

# Пагром.

Пагром! Кольки раз гэта слова далетало да наших ушоу.

Пагром у Гомелю, у Кишинёви, у Кіеви, у Беластоку, у дзесяци иншых месцох и наканець у Седльцах.

Пагром! Свет добра ведае што значыць гэта слова: у ём морэ крыви, цэлые рэки слёз, сотни забитых и накалечэных, плач удоу и сирот, умираючых з галаду на магилках сваих кармицелёу...

Дзе праляцизь гета слова — кроу стыне у жылах, праклiцце зрываецца з губ абездоленнаго народу, гневом пометы на яго устроицелёу кипяць сэрцы людзёу. Скуль бяруцца гэтые пагромы, якая цёмная сила туманиць людзём вочы, што яны як зверы кидаюцца брат на брата? Ёсць жменька людзёу, катарая баицца народнае свабоды, видзючы у ёй сваго найбольшаго ворога.

Вось гэта жменька ворогу народа и видзиць што народ сильны, што таго и глядзи— прыдзе свабода. Трэба позвадзиць людзёу — хай бъюцца намиж собою, хай у гэтай братней битве трацяць свае силы.

И вот яны цкуюць адзин народ на други, хрысцияп на жыдоу, руских на палякоу, татароу на армяноу. Цэлыми дзесяткамi тысячоу друкуюць паперки у каторых стараюцца пазвадзиць людзёу и паперки гэты разсылаюць серэд цёмнаго народа и слухаюць, што народ скажэ на ихъ писульки. Кали тольки гэтые ядавитые писульки нойдуць послух серэд цёмных мас, гэтые вораги народа прысылаюць сваих подкупленых слуг и абъяуляюць час пагрому. Серэд солдатоу яны так само не забываюць засеяць сваё ядавитое зерне и тые

з дурноты слухаюць рады сваих ворагоу. Хто керуець гэтыми цёмными силами погромщикоу? —згадаць трудна. Адно только ведамо, як гэта разтлумачыу член Гасударственной Думы бывшчы товарыщ министра унутрэнных дзел, князь Урусоу, камандзер гэты мае послух и памеж часцей палиции, жандарау, казенных даношчыкоу, што мае уласць ён, бо кали часам заступицца за винаватых, то справедливая кара аминае их.

Так жменька людзёу, ворогоу народнае свабоды, ужо залило край морам крыви и цяпер зноу есць зерте няроды памиж цёмнаго народа.

Тольки дарэмна праца их: народ патрафиць распазнаць Юдаша ад брата сваго.

Народ пачынае разумець и ядавитае зерне нязгоды ня зыдзе па ниукахъ нашых вёсакъ.

---

## Як мужыку палепшыць сваё жыццё.

Усим добра ведамо, што нима горш жыцця, як мужыцкае жыццё. Працуй цяжка не пакладаючы рук, пакуль маеш хоць крыху силы, и за гэта цярпи голад и холад, жыви у здзеку, паневерцы ды цемноци—во доля мужыка. И працуе мужык, сцяушы зубы, бо ведае, што иначэй чэкае яго галодная смерць. А тым часам бачыць ён, што шмат людзей каля яго жыве бэз уселякой працы у багацтви и збытках, не знае ни гора, ни бед.

И злосць бярэ мужыка: адкуль гэтакая несправедливосць на свеци? Гдзе прычына мужыцкой нядоли?

Дзика пазирае мужык на свет Божы и шукае гэтае прычыны, шукае, гдзе вораг яго. Ведае ён адно: зямли у яго мало; каб неяк пражыць, трэба або узяць у арэнду больш зямли, або исьци на заработки. Куды звернешся? а дарога адна: мусиш исци да пана ды прасиць яго, каб быу ласкау прыняць на службу за парабка або аддаць у арэнду зямли, скольки патрэба. Арэнда вяликая, плациць яе цяжка—заработки надта малые, восъ значыць пан винаваты у бядзе мужыка!

Так думае мужык и у цемноци сваёй ня бачыць таго, што паны як паны, але винаваты и сами мужыки. Паны, ведамо, дабиваюцца таго, каб мець як найбольш карысци и даходу з сваей зямли або фабрыки, бо иначэй и быць ня можэ.

Тое самое робиць кожны, тое самое рабиу бы и мужык, калиб дастау стольки зямли, скольки мае пан. Таки ужо цяпер парадак на свеци: хто мае зямлю, або фабрыку, або шмат грошэй, той можэ карыстаць з чужой працы и жыць ничога не робячы. И пакуль гэты парадок будзе трываць, будуць у нас и багатые, и бедные, будуць адны людзи працаваць на других, прадаваць им свае силы рабочые. Але кали работники ды мужыки прадаюць сваю працу надта танна, кали мужыки бяруць ад паноу зямлю у арэнду за надта вяликую плату, то у гэтым яны сами винаваты. Винаваты таму, што кожны дабиваецца тольки сваёй карысци, ня гледзячы на сваих таварышоу працы, у каторых адны справы и адна доля, и не идуць разам, як браты, за лепшэе жыццё, за лепшые варунки працы.

Годзицца, прымером, мужык на работу за парабка. Сямья у яго вяликая—и просиць ён у пана найменш 40 руб., бо иначэй нима як пракармицца. А тым часам прыходзиць други мужык: сямьи у яго нима, адзин ён на свеци, грошэй яму много ня трэба, И вот, ня гледзячы на тое, што яго таварыш застанецца без хлеба, ён згаджаецца служыць за 35 руб. За им прыходзиць трэци—той ещэ адкинуу пяць рублёу и просиць ужо тольки 30 руб. у год. Нима дзива, што пан прымае на службу таго, каторы просиць найменьшу плату; и хтож цяпер винаваты, што плата малая? Пан чы мужыки?

Вось гэтаким парадком мужыки сами паменьшыли плату за работу. Далей—возьмем абработку зямли на палову. И тутака мужыки так само идуць на перэбой: кожны згаджаецца на найгоршые, найцяжэйшые варунки, каб тольки узяць зямлю. А пан—ведамо—вельми рад таму, што добра зарабиу.

А што робяць мужыки, кали бяруць зямлю у аренду? И тут яны цягаюцца меж сабою, каб тольки перэхапиць у другого зямлю. За кавалак зямли, за каторы тры годы таму назад плацили сто рублёу, цяпер даюць две сотни и болей ещэ.

Кожны павинен зразумець, што сами мужыки винаваты у сваёй бедзе, винаваты праз тую неразумную вайну, каторую вядуць меж сабою за зямлю ды за заработки. Штож зрабиць, каб гэтаго не было? А трэба зрабиць тое самое, што зрабили местовые работники.

Ведамо, што у горадзи ни адзин работник не жывець так дрэнна, як мужык у вёсцы. Чамуж гэта так? Може таму, што их гаспадары, фабры-

канты и усслякие местовые багачы—лепшые людзи, як багачы вёсковые?

Заусим не! И у горадзи, як и у вёсцы, гаспадары хочуць мець якнайбольшые даходы и дзеля таго стараюцца заплацидь работникам якнайменш грошэй. Але у горадзи работники разумнейшые ад вёсковых: яны зразумели, што яны тольки тады сила, як идуць усе разам, як браты. Местовые работники усюды пазлучалися у хэуры, у саюзы, разом пачали ваеваць з багачами за свае агульные справы и ужо дабилися большэй платы и каротшаго рабочаго дня.

Чамуж мужыки ня робяць гэтак само? Чы яны не такиеж людзи, як работники? Ужо й у нашым краю пачынаюць прачухацца мужыки, пачынаюць разумець, што не вайною меж сабой дабьюцца лепшаго жыцця, а добраю згодой и брацкой любоую. А тож ёсць такие гасударства, гдзе мужыки паспели дабицца такого добраго жыцця, што жыццё нашых мужыкоу здаецца як бы неки цяжки сон. У Англии мужыки кожны дзень ядуць мяса, а парабок дастае такую добрую пэнсию, аб якой наш мужык и ня сниу, мае добрую хату, пекнае ложко, чыстую и добрую апратку, ды еще и вучыцца! У иншых краёх мужыки жывуць и ещэ лепей.

А у нас?

И у насъ мужыки могуць дабицца тагож, кали пойдуць па той дарози, па каторой ужо шмат гадоу идуць их тварышы па працы у горадзи. Не марнуючы часу павинны и мужыки рабиць свае саюзы так само, як ёсць па гарадох саюзы шэуцоу, крауцоу, сталяроу, ткачоу, друкароу и усеяких иншых работникоу. Такие мужыцкие саюзы павинны моцна злучыць усих мужыкоу дзеля таго, каб абараняць свае агульные справы и палепшыць цяжкую долю мужыкоу.

Як рабиць гэтакие саюзы, напишэм у других нумэрох „Нашой Доли".

# Усяго па троху.

---

**Помоч сямействам запасных.** Глауное прауленне местовой гаспадарки абъяуляе, што казна ужо болей ня будзе памагаць сямействам запасных салдатоу, прызваных на службу. Кали гдзе не будзь запасные датуль не вернулися з вайны, их сямействам памагаць павинны местовые праулення.

---

**Крэсцьянски банк** у апошни срок за неуплату у час грошэй ставиць на лицытацью 84 крестьянские гаспадарки, купленые праз гэты банк.

---

**Недауно вышоу указ** а прадажы мужыкам 7 мильёноу дзесяцин казённое зямли. Вот газэта „Переломъ" и злічыла, што казна ад прадажы гэтае зямли палучыць 560 мильёноу рублёу. Кали гэтые грошы размяниць у банку на государственные билеты, то казна заробиць на гэтым 25 мильёноу рублёу. А цяперака даходу з гэтае зямли казна маець што год 6 мильёноу сямсот тысяч рублёу.

**У нашым краю казна мае вось скольки зямли:**

| | Усяго земли дзесяц. | Пад лесом дзесяц. | Прыгодной да гаспадарки и иншэй дзесяц. |
|---|---|---|---|
| У Виленской губ. | 315,153 | 264,886 | 50,267 |
| „ Ковенской „ | 193,005 | 166,195 | 26,810 |
| „ Гродненск. „ | 338,445 | 283,171 | 55,274 |
| „ Минской „ | 712,196 | 469,685 | 242,511 |
| „ Вицебской „ | 233,448 | 169,260 | 64,188 |
| „ Могилеуск. „ | 121,135 | 109,081 | 12,054 |

Усяго разом у гэтых шэсци губэрніях да казны належыць лесу 1,462,278 дзесяцин, иншэй зямли 451,104 дзесяцины, а агулом—1,913,382 дзесяцины.

Агульны доход казны у 1904 году з усей гэтай зямли быу 6,156,500 руб., у тым шчоци з лесоу —5,893,259 руб., а з зямли, прыгодной да гаспадарки и иншэй—263,241 руб.

(Kur. Lit.).

**Аб Павленкоуских библиотеках.**

Просяць нас паведомиць чытацелёу, што цяперяка адкрылася библиотэка (книжница одкуль народ можэ пазычаць книжки) имени Ф. Ф. Павленкова у вёсцы Остромэчьэ Гродзенской губ. Брэсцкаго павету. Гэтая библиотека заложэна па прыгавору сельскаго обчэства и маець сабе за цэль даць народу можнасць карыстаць з книжокъ и пазычаць их чытаць да хаты ничога за то не плацючы. З сагласу сельскаго обчэства книжки могуць браць чытаць и мужики з иншых суседзких вёсак, пры гэтым ад их можэ брацца, невяличкая плата (на попрауку) кали на тое будзе соглас сельскаго обшчэства, каторое залажыло такую библиотэку. Библиотэка закладаецца за грошы добровольно офярованые не меней 50 рублёу и за грошы записаные тэстамэнтом нябошчыка выдауцы книжок Ф. Ф. Павленкова дзеля чаго и библиотэка носиць прозвищэ „Библиотэка имени Ф. Ф. Павленкова". Хату для библиотэки даець сельское общество. Усими справами библиотэки заведуе

выборны чэлавек ад таго сельскаго обчэства, каторое написало прыгавор аб аткрыццю библи- библиотэки. Кожнаму чэлавеку патрэбны книжки, але адзин чэлавек не мае грошэй каб купиць усе тые книжки, каторые конешне патрэбны кожнаму дзеля навуки. Але як усё сельское обчэство усею грамадою зложыцца хаця па залотоуцы з хаты каб было хаця 50 рублёу и, написауши прыгавор аб аткрыцци библиотэки, собраные 50 рублёу пашлець разом с прыгавором да Пецербурга у книгоиздацельство Ф. Ф. Павленкова его душэпрыказчыку г. Яковенко, тады адтуль пришлюць устав библиотэки патрэбный для прэдстауления правицельству и книжки для библиотэки.

---

## З Беларуси и Литвы.

### Битва каля вёски Будзеуки.

*(Слонимскаго павету, Гродзенской губэрнии).*

Па прыказу губэрнатора, у двох суседзких вёсках Лухоницы и Будзеуки хацели арыштоваць 7 мужыкоу. Споуниць гэтае прыказано было прыставу 3-го стану Слонимскаго павету. Прыстау паехау у вёску Лухоницы з атрадом палиции. Было 2 пеших, 15 конных стражникоу и 3 уратники. На сам перэд арыштавали Пятра Лотоша з вёски Луконицы. Ад яго хаты атрад палиции падышоу да хаты Винцука и Ивана Махначоу. У гэтым часи весць а прыездзи палиции абляцела усю вёску и мужыки пачали прыгатауляцца, каб адабраць ад палиции сваих суседоу.—Абачыушы што народ разрухауся, палиция, забрауши Лотоша и раней арыштованнаго мужыка з вёски Лысково, Прокоповича, пакеравалася на вёску Будзеуки, гдзе думала арыштаваць двох братоу, Людвика и Александра Латошэй. Падходзючы да вёски Будзеуки прыстау пакинуу двох арыштованных недалёка вёски пад канвоем 2 стражникоу, а сам с атрадом пакеравауся да вёски, каб арыштаваць мужыкоу. У гэтым часи з вёски Луконицы падышли людзи з калами и каменнями и сунулись да палиции. Палиция пачала стрэляць у народ са стрэльб и рэвольвэроу.

Мужыки кинулись пад хаты и аттуль были чутны выстрэлы з рэвольвэроу у палицию. Тады часць палицэйских накинулась з шаблями на народ. Мужыки разбежалися па лясох. Палиции удалося схапиць тольки дзве бабы и мужыка Михала Лотоша, каторы з калом у руках адзин усё еще ваевау з атрадом палиции.

Чым гэта кончылося—весци пакуль што нима.

(Страна).

**Брэсцски павет.** Пры выборах да земельных камитэтоу мужыки кажуць, што ниякой згоды намиж мужыками и памещыками ня будзе, и што выбраные ад мужыкоу дэпутаты будуць крэпка бараниць мужыцкае справы, а на сам перэд чэкаць Гасударственнай Думы.

— Мужыки спалили тры скирты сена у земскаго начальника Маслова, каторы арыштавау выбранаго ад мужыкоу у бышую Думу дэпутата Кондрашчука.

(Kurjer Litewski).

**Чэчэрск** (Могилёуской губ.).

У гэтых днях да вёски Литчыхи приехау неяки незнаёмы хлопец, скликау мужыкоу и начау намауляць их, каб не давали запасных и не плацили падаткоу. Палицэйские стражники пад камандай уратника хацели арыштоваць яго, але мужыки на тое не пазволили. Памиж мужиками и стражниками началася битва. Мужыки аспилили палицию, а тым часэм агитатор уцёк.

(Kurjer Litewski).

**Чаусы** (Могилёуской губ.

Недауно да вёски Рудомо прыехау спрауник са стражниками, каб зрабиць обыск. Адзин з намиж мужыкоу запытауся у спрауника: „Чаго шукаеце у мяне? ци я што украу? прызнаюся да адной тольки вины—умею чытаць и писаць“. Спрауник зразумеу, што мужык здзекуецца над им и прыказау арыштаваць гэтаго мужыка, але зараз забралася грамада людзёу и не пазволила на тое. Спрауник з сваими стражниками пашли вон.

(Kurjer Litewski).

### З Лидзкаго павету.

*З пад Василишэк.*

Не так дауно заарэштавали у нас Каспровича, маладога хлопца, сына пасэсара. На сам перэд прыстау са стражниками прыехали трасьци яго хату. Шукали, шукали, перэтрасли усе куты, а таки ничога не знайшли и паехали. Праз два ци тры дни пасля таго зноу паехала уся каманда, зноу шукали, зноу трасли усе куты, зноу не знайшли ничога, а Каспровича таки забрали, завязли у Василишки, а адтуль на заутра адправили у Лиду, гдзе и сидзиць ён у вастрози па дзись дзень.

За што яго забрали?—Трудна згадаць. Кажуць людзи, што быу донос на яго. Данощчыком называюць близкаго суседа, каторы праз злосць нагаварыу перад прыставом нябывалые рэчы на Каспровича.

**Дзвинск.**

Быу тутака прыстау 1-й палицейскай часци неяки Бульёнко, ещэ вельми малады чэлавек, але ведамо было, што надта старауся пры обысках. Недауно аказалося, што ён украу 500 рублёу. Хаця за гэта зладзейства Бульёнко и атказали службу памочника прystава, затое зараз дастау ён месцэ у губэрнским прауленни.

*(Сѣв.-Зап. Гол.)*

# Па Расеи.

**Саюз народных вучыцелёу.** З таго часу, як началося учэнне, у саюзи народных вучыцелёу зноу закипела работа. Прауленне саюзу у Пецербургу завалена прозьбами ад сваих сябрукоу. У большэй часци гэтых прашэнёу народные вучыцели, страциушые сваи месцы, просяць аб запчыци их прад судом и у рожных канцэлярьях. Прауленне шукае цяпер работы для сваих абяздоленных таварышоу. Гарус цяпер шмат сямей народных вучыцелёу, гатовых узяць якую небудзь работу. У Пецябургу цяпер идзець работа каля устройства „пауночнаго аддзела“ саюза вучыцелёу. У гэты аддзел войдуць вучыцели суседних з Пецебурскай губерніёу у тым шчоци каля 600 народных вучыцелёу города Пецербурга и паветоу.

**Трэпоу памёр.** Трэпоу, ганарал, каторы у прошлым годзи у акцябры дау прыказ, каб патроноу не шкадаваць и з пустых нэ стрэляць, памёр.

Спершу гаварыли, што у ганарала сэрцэ разарвалася. А цяпер ходзяць слухи, што не сваёю смерцью памёр Трэпоу.

**У Новоузинском павеци** мужыки на сельском сходзи пастанавили прагнаць стражникоу з свайго села и назначыли двацаць пяць рублёу штрафу для кожнаго гаспадара, каторы пасмее прыняць стражникоу на кватэру або у стоянку. У кольки дзён пасля прыговору прыехау земски начальник Кашкороу и объявиу, што ён по прыказу Самарскаго губэрнатора ня будзе выдаваць магазыннаго збожа сельскому обчэству села Перэкопнаго, аж пакуль яны не назавуць яму правадыроу гэтаго прыгавору

Мужыки не маюць чаго есци, некаторые начали хварэць з голаду, але цвёрда и аднорна трымаюцца прэд земскимъ и ни аднаго яшчэ суседа не здрадзили,

(Сев. Зап. Гол.).

**Казань.** Недалечка ад Уржума Вятской губ. у вёсцы Зайцэво, мужыки адказалися плациць падатки. Прыехау спрауник са стражниками и пачоу забираць (конфисковаць) их дабро. Мужыки паслали да вёски Большэшырынска своих людзёу, каб уведамиць об гэтым сваих суседау. Пасланцы забрали у Большэшырынску кале 2000 народу и пашли адбираць ад палици сваё дабро. Стражники абачыушы граматy людзёу пачали уцякаць. Мужыки адабрали сваё дабро, а спрауника арыштовали и пасадзили у лазню и там трымали яго, пакуль ня заплацицу им за папсаваные самавары.

# Гуторки аб гаспадарцы

Сонцэ навуки скрозь хмары цёмные
Праглянс ясна над нашай нивою
И будуць жыци дзетки патомные
Добраю долею, долей шчасливаю.

*Янка Лучына.*

Доугими вузкими гонями раскинулись ва усе стораны мужыцкие шнуры: у вадну сторану жытни палетак, у другую—ярынны, у трэцю папар. Чы не пайсци прыглядзецца, яким ураджаем наградзила у сёлетним гаду мацъ земля мужыка за яго цяжкую крывавую працу; чы зможэ ён з гэтаго ураджаю прахарчэваць сябе, сямью сваю и сваю скацинку?—А працавау ён цяжка ад самой вясны да позняй восени, уставау чуць свет, клауся познай ночкаю, а увесь дзень чы то з сахою у поли чы з касой на сенажаци биуся и гаравау дзеля лепшаго ураджаю, Не пашанцило яму и у сёлетним гаду: з восени жыта таки добра зелянела, тольки з вясны чы прамёрзла яно, чы можэ пад снегам адапрэла—а вышла яно неяк нецекавае, якбы соннае. И ледзь прыгрэла сонцэ, а ужо абсела яго уселякая трава,—и стаиць яно цяпер низкое, з пустыми коласами, рэдкое як тые шчасливые дни у мужыцкай доли . . .

З ярыной ещэ горш; хоць и пад дождж пасеяу яе мужык, и земля добра падапрэла, тольки чуць вышла яна з зямли—пажауцела, пасохла не дацягнуушы да коласа; прапау навэт и той гной, што

пад пасцилку падаслау мужык пад ячмень. А пра скацину нима што и гаварыць: праз цэлую вясну таукалась яна па голаму папары и так замарнела, што и не адкормиш яе ни на ржанишчы, ни на аусянишчы. И чэшэцца мужык, и думае, чаму гэтак вышла? И крыуда яму, и руки ападаюць, и рады ниякой даць сабе ня можэ,—и думае ён сабе: а скуль земля можэ радзиць, кали гною нима?—А гною нима, бо скацины нима чым пракармиць: сенажаци ня родзяць, каничыны не пасееш, бо зямли нехват, бо уся яна у шнурах; трэба было-бы з ярыны адабраць, а яе и так небагата. Успаминае мужык, як гэта бацьки казали, што на гэтых самых шнурах, сщэ як воля вышла, ня тольки жыта як сцяна стаяла, а и пшаница, и ячмень радзилися. И здавалася тады мужыком, што гэта надта разумная выдумка нарэзаць зямлю у шнурах, каб тольки з пашэю шырэй; тольки цяпер, як цеснота у вёсках настала, дык схапиуся мужык, што дзеля гэтаго розуму трэця часць зямли год годам пад папаром гуляе, а у других, у шляхты ды у иншых батракоу, гдзе земля у адным кавалку кругом хаты, там гаспадар яго чы пад каничыну, чы пад гарох пусциць, и родзиць ня горш, и корму спарней.

Во гэтая шнуровая трохполёука—гэта першая и найгоршая беда мужыцкой гаспадарки. И нарадзиць ёй трудно: хиба згаварыцца усим мужыком у вёсцы, каб зямлю наново пярэдзелиць, каб яе нарэзаць так, каб кожны меу у вадным кавалку усю сваю зямлю, а ня тое, што раскинутую па цэлым свеци. Мы радзим зрабиць гэта мужыкомъ, бо ведаем добра, што з гэтым шмат выгадней и багацей у вёсках будзе, тольки сами разумеем, што гэта без помочы правицельства мужык сам зрабиць ня зможэ. Каб гэтаки перадзел зрабиць, трэба перш наперш силу мець, каб мало што не усю вёску перабудаваць, а пасля трэба глядзець, чы будзе на гэтых новых месцох вада близка, чы прыпадзе гнойны кавалак над агароды—а цяпер так усё близка здаецца, ведама—абжылися. Трэба тольки мужыком дабивацца, каб правицельство памагло им зрабиць гэты перадзел. За гэтые падатки, што правицельство збирае з мужыкоу, яно павинно им памоч, бо народ плациць грошы на праудзивые народные патрэбы.

А тым часом пры усселяких раздзелах и купляючы зямлю трэба мяркаваць так, каб у адным кавалку больш зямли выпадала. Нима што гнацца за тым, што там у канцы негдзе пад сенажацью земля крышку чарнейша, кали дзеля таго трэба усё на шнуры нарэзаць: усё роуно збярэце з той зямли два чы тры лепшые ураджаи, а як гною не давязеце, то так само радзиць перастане.

Есцяка сщэ и другая, можэ навэт горшая беда и прычына неураджаю у вёсковой гаспадарцы. Гэта тое, што мужык да гэтай пары гаспадарыць так само, як гаспадарыли яго дзяды и прадзеды, кали зямли у их было больш, а не научыу яго нихто, як гаспадарыць, каб аддаваць зямли тое, што ад ёй выбирае з ураджаем. Не научыу нихто цёмнаго мужыка, як жывець кожнае збожэ, як яно кормицца и расце. Кали зразумее гэта мужык, то будзе ужо ведаць, што трэба рабиць, каб мець добры ураджай, каб не галадаць на сваёй гаспадарцы так, як цяпер. Аб гэтым пагаворым сщэ у других нумэрохъ нашае газэты.

*Антось Асина.*

---

# Слабóда.

На сваём сметнику, кажуць, и певень гаспадар. А у сваём стани и прыстау цар.

Жыу той прыстау у Игумяни. Нягодны, сярдзиты, як звер. Дачууся ён, што у вадной вёсцы у мужыка ёсць стрэльба.

Якая там стрэльба? Божа ты злитуйся! Яе, па праудзи сказаць, смéшна и называць стрэльбаю.

На рули—грази на цэлы палец; брамка с сабачку пябощыцы пани Калиноускай. Замиж штэнфэля—арэхава палка. Звязана лыкам и дротам. Старая стрэльба. Щэ можа швэд згубiу яе тут трыста годоу таму назад. А мужыку добра было пастрашыць часам воука зимою, або на начлег узяць.

Едзе цэлы абоз палиции: прыстау, два вурадники, стражникоу з двацаць; са стрэльбами, шаблями, нагайками.

И куды едуць? Адбираць у мужыка стрэльбу.

Прауда, наш Сымон Таукач гаварыу, што мужык той быу чуць ни сацыалист: панскую кабылу назвау брыдка и земскаго кались дурнем злаяу прад соцким.

Акружыла палиция хату. Кале акна—па стражнику. Сам прыстау з вурадниками и стражниками входзяць у хату.

— Где ружьё? Падавай яго сюда, мерзавец! Крычыць начальства и нагами тупае.

— Якое там, паночку, ружьё? адно тьфу—ничога болей. Паказаць брыдка.

— Не разсуждаць, дурак!

— Не крычыце, паночку. Вун дзеци перэпалохалися, плачуць.

— А тебе кто разрешил их..?!

Мужык аж рот разявіу: николи ён ня чуу, каб на гэта трэба было браць разрашенне у палиции.

Арыштовали мужыка и стрэльбу забрали.

Потым ужо, як выпусцили, смеяуся Кандрат:

— Да чаго мы, браткó, дожылися! На дзеци билет трэба браць.

От хиба слабода, дык слабода!

*Дзяцька Карусь.*

## Асенни вечар.

Вые бура. Лѣс гамониць,
Як на сходзи дзе народ.
Вецер хмары так и гониць.
Дошч и град и ганелёд.
На каминку корч пылое
Кале печи дзет сядзиц;
Бацька лапци папрауляе,
Маци нитки села виць.
Вецер вые, не сцихае,
Дзика у комини шумиць;
То заплачэ, заспевае,
То па стреси прабяжиць.
Циха у хаци. Сэрца ные
Душу страх апанавау...
Чамуж вецер думки злые!
У душу ты мою нагнау!

*Якуб Колас.*

## Вецер

Гудзиць у поунач сосны ломиць
И плачэць вецер у бары
И белы снег да неба гониць
Чамуж так вецер плачэш ты?

Ахъ плачу я, што ноц бяз сонца
Нигдзе дароги не знайду
И так кидаюся бяз конца,
Ня знаю сам куды лячу.

У грудзях балиць и сэрцэ млее
И так маркотна на душы
Калиж дзянёк нам заяснее;
Чаму так сэрцэ млееш ты?

*Дзяцька Працук.*

## Ад Рэдакціи.

*Першы нумэр «Нашае Доли» па прыказу Виленскаго губэрнатора палиция конфискавала. Разышлася тольки палавина—пяць тысячоу, а пяць тысячоу палиция забрала, так што ничого схаваць не удалося, и дзеля таго высылаць першы нумэр никому ня можем.*

*Просим у сих нашых чытацелёу писаць да нас, писаць аб усём, што дзеецца аб крыудаз сваих и радосьцях, хто як умее. Кали патрэбна будзе каму якая парада—пытайцеся—адкажэмо. Ведайце добра, што «Наша Доля»—газета вёсковых людзёу.*

*Прысылаючы грошы просим писаць, якое выданне «Нашае Доли» присылаць: чы друкаваное рускими литэрами, чы польскими.*

*Адресоваць грошы трэба канешне так: Вильня, Рэдакция «Нашае Доли», Еўстафію Сымоновичу. Хто хочэ палучаць газэту, нехай паспишае з прысылкаю грошэй.*

Рэдактор-выдауца **Иван Тукеркес.**

# АБЪЯУЛЕННЯ:



Типографія «**Артель Печатнаго Дѣла**», Вильна, уг. Большой и Рудницкой ул., д. Залкинда.

**Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).**

**№ 3.** Вильня, 20 сенцябра 1906 г.

Год I.

# Наша Доля

першая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

**ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.**

Адрэс рэдакции и администрации: *Вильня, Виленская вулица 32.*

**Цана:** з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—**3 руб.**, на 6 месяцоу—**1 руб. 50 кап.**, на 3 мес.—**75 кап.**, на 1 мес.—**25 кап.** Без дастауки и перасылки: на 1 год — **2 р. 40 к.**, на 6 мес.—**1 р. 20 к.**, на 3 мэс.—**60 кап.**, на 1 мес. — **20 кап.** За границою: на 1 год—**4 руб.**, на 6 мес.—**2 р.**, на 3 мес.—**1 руб.** Перамена адрэсу—**20 кап.**

АБЪЯУЛЕННЯ прыймаюцця на наследняй страницы по **20 кап.** за линейку пэтиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамилею и адрэсом таго, хто яе присылае. Адрэс тольки для ведама Рэдакции.

## Ад Рэдакции.

*Уселякие грошы присыланые у Рэдакцию „Нашае Доли“, просим прысылаць канешне на имя Ефстафия Сымоновича.*

## Старое лекарство.

Правицельство нашэ на усе хваробы мае адно тольки лекарство. Лекарство гэта—цыркуляр. Захварэу народ на свабоду, правицельство—тыц цыркуляр, захварэу народ на жаданне зямли—тыц други цыркуляр; захварэла жменя людзей на обиранне манаполек, почт—зноу цыркуляр. Стольки ужо гэтаго лекарства прыняу народ, а намагло яно бядзе так як нябошчыку кадзидла. Здаецца доси былоб гэтых цыркуляроу, здаецца час было бы зразумець, што каб вылячыць народ з яго нядоли адных цыркуляроу мала.

А правицельство чы ня ведае, чы ня хочэ ведаць аб гэтым.

Новая хвароба завелася: мужыки ня плацяць падаткоу. И вось правицельство и на гэту хваробу прыписывае сваё старое лекарство—цыркуляр. У цыркуляры гэтым министр скарбу Коковцэв и председацель министроу Сталыпин прыказываюць губэрнаторам, каб яны усими, хацябы найстражэйшыми законными способами пастаралися прымусиць мужыкоу плациць падатки. Цяжкая на долю губэрнатороу выпала работа: Як возмеш што нэбудзь у таго, у каго нима ничога? Як збираць падатки, кали мужык так згалеу, што не то на падатки, на хлеб грошэй ня мае? Што дзень газэты прыносяць усё новые весьци з усих канцоу Расеи аб цяжкай мужыцкой нядоли.

Тутака апошни хлеб даедаюць, там ужо мруць з голаду; тутака разгнездзиуся галодны тыфус, там—иншая якая зараза з голаду сотни людзей гониць на той свет, дзе нима ни мук, ни нядоли. Што возьмеш з гэтых людзей? А у тых месцох, гдзе Бог дау ураджай крыху лепшы, ци многа возьмеш ад мужыка? Ци многа возьмеш ад удоу и сирот, кармицели каторых не вернулися з Далёкаго Востоку, або згинули ад куль сваих братоу? Ци многа падаткоу збярэш з вёсак, праз каторые праехали карацельные атрады,

у каторых гудзеу гром пушэк и з дымом шли мужыцкие хаты?

Ци многа возьмешь ад людзей, у каторых апроч жыцця не засталося ничога?

Не, ад тых людзей не возьмеш ничога. Тутака и усе законные способы не памогуць. Паслухайце, што пишэць газэта „Страна“: у Ставропольским павеци голад, податкоу плациць нима чым. Мужыки змауляюцца аб тым, як бы усим разом атказацца плациць падатки. „Калиж будуць вымагаць падатки праз палицию и стражникоу, тады пойдзем усе у вастрог на гатовы хлеб“, так кажуць мужыки у сваей нядоли. И ня дзива, бо усёж лепшы вастрог, як смерць з голаду. Падыходзиць зима, з ёй разом да мужыцкой хаты прыдзе новы госць—холад. За им яго сястрыца-смерць з вострою касою. Ци ад яе правицельство так сама лячыць будзе цыркулярами? Годзи! час зразумець, што цыркуляр утрациу силу, што ад нядоли вылячыць могуць тольки народные выборные и правицельство, паслушное им!

# Суд.

Эх, братцы, кепска стала жыць на свеци, кали ужо за курыцу сусед суседу анэгдайсь калом галаву пашчапау ды патом за гэту самую курыцу (вядома, спусциушы адзин другому юху) будуць цягацца па следавацелёх, ды па судох! А што за шкоду зрабила курыца? От, выдзерла на градзе бурачкоу на пядзи тры! А им, гэтым задзиракам, кольки гэта курыца будзе каштаваць? Цэлага падцёлка, кали ня больш! Нима цяпэр меж маладых дабра!...

А от паслухайце вы, якие у нас дауней были суды. Нябошчык Янка (вечны пакой яго душы), „махляром“ што звали, забрау са сваяго ауса двух быкоу Рыгора Канцавога; прауда, ауса зъесць—мала зъели, але шмат стратавали; дома пагадзицца—не пагадзилися, написау пахтар прашэнне и пашло на суд.

Цешыуся и я з гэтаго, бо ужо кольки часу, як и на маих шнурох пасля ночы атава была стратована: не иначэй як гэта работа Рыгоравых Лысага и Падласага! Але не злавиушы за руку, не кажы, што злодзей. Шмат было гутарки аб гэтых быкох у вёсцы, тольки мне Сталючонак падшапнуу, што як у ночы хадзиу на рунь пильнавать зайца, бачыу на маей атави кабылу удавы Габрэлихи. Эгэ, думаю сабэ, недачэканне злаулю и я!

Павячэраушы, зараз абуу лапци, насунуу кажух, ды цихонька шусць праз сенцы на гумнишчэ, гоцнуу праз плот, ды борздзенька на мяжу и бух!... Ляжу... чакаю...

Тольки першые пятухи запели, як чую, едзе нехта на маю атауку... Муси и аднаго пацера не паспеу бы чалавек згаварыць, ходзе ужо Габрэлихи кабылка па маей атави и хрумшчыць, аж пена идзе, а за уздэчку трымае ды водзе сама Габрэлиха. Здуру пагарачыуся я, и не пачекаушы каб ближэй мяжы падышли яны,—крыкнуу, скакнуу да кабылы; але и Габрэлиха, каб яе паралюш, прытная была кабецина, як вишь на кабылу, ды у скочку — науцеки!... Гнауся я, гнауся, але паночы—куды там!... На заутра, чуць свет, узяу я старасту, двух панятых и следом як раз давяли; прызналася и Габрэлиха але заплациць за шкоду не хацела; падау и я на суд.

Праз яких две нядзельки прыходзяць нам павестки: и Рыгору з Янкою, и мне з Габрэлихою—усим на адзин дзень. Паехали. Миравы судзья быу у нашым участку немец и надта цяжка было з ним разгаварыцца: мала нашэй гутарки ён разумеу, а мы яго—ешчэ меньш.

Выкликае на сам перэд Янку и Рыгора. Пытае:

— Ну, как биль?

— Не, кажуць, Вашэ Скародзе, Дали Бог, мы ня билися...

— Больван, закрычала судзья, я спрашываю, какой патрава?

— Не, кажэ Янка, не па траве, а па аусе, Вашэ Скародзе, хадзили Рыгоравы быки...

— Какой бик?

— Лысы и Падласы, Вашэ Скародзе...

— Больван, мошэнник, закрычала ешчэ горш судзья, у прашэнии кафарить воль, а теперь—бик, сам не снаешь, кто имел потрава! Идите дамой, дамой! мне время нет! Дзело кончэно!

Вышли Рыгор з Янкам, а я стаю и дрыжу: не иначэй, як пахтар напутау у прашению и замест быкоу написау валоу! Ах каб яго лиха! А кали и у маим прашению зманиу ды замест кабылы—написау каня?!... Стаю... дрыжу... и языка у губе забыуся... Стаю—шапчу (каб ня збицца с панталыку): кабыла, кабыла, кабы... А тут, як раз кличаць мяне з Габрэлихай. Вышоу... стаю.. дрыжаць калены (першы раз на суд папау!)... Бачу—и Габрэлиха, як хуста збялеушы

стаиць... Кабыла, кабыла, кабы... шапчу я цёнгем, аж тут трах! Миравая и пытае:

— Ну, как?

— Кабыла, Ваше скародзе, кажу.

— Как кабыла? кто?

— Габрэлиха, Вашэ скародзе; але ужо ни вочы маи ни бачуцъ, ни вушы ня чуюць... Стаю... дрыжу... як праз туман бачу: судзья смяеацца и зноу пытае:

— Кто кабыла? кто?

— Удава—Габрэлиха, Вашэ скародзе! Але у вачах неяк весялей мне робицца; мусиць дзела выиграю, бо бачу: судзья, замест гневу, смяецца, ды изноу да нас:

— Ну, от и хорошо: ты, кажэ, хоць и мужчына, а маленьки, а она хоть и баба, но правда, большая кобыла, так вы лучше так... бэз суда... зачэм суд? помертесь!

Глянуу я на Габрэлиху, зиркнула яна на мяне, стаим, чакаем, што будзе...

Но, идзице, кажэ, у калидор—памертесь! На то суседзи—зачэм суд?

Вышли мы у калидор... глянуу я на Габрэлиху, кепска, думаю, будзе: хоць вина яе, але як прыдзецца да меры—не дам рады: баба рослая! Стали мы гэта бокам, узняуся я на цыпачки и так на корх не хватае, а Габрэлиха, каб ей дна ня было, дагледзила гэту штуку и кажэ: не, суседзе, гэта ня мера; кали судзья сказала памерыцца,—то трэба памерыцца як мае быць; судзья лепш ведае, што и як трэба да дзела; давай плячми станем. Як стали плячми, а баба ешчэ учапилася за маю бравэрку, ды цисне у низ, каб на цыпачки не узняуся,—дык куды там! Амаль не на усю галаву нижэй я росту! Уздахнуу я, але штож зробиш: воля Божа! Вярнулися у камэру, а тут зараз судзья и пытае:

— Ну, как?

— Памерылися, кажэм, Вашэ скародзе!

— От и хорошо! Идите, кажэ, с Богом домой, дзело кончэно; я ошэнь рад!

Вышли мы. Тольки..... але што там валаводзиць? хочаце ведаць яки канец? Думаеце, што як цяпер вы, маладые, зараз у зъезд, у палату, у Пицярбурх? Ани думаць! Да Бэрки трапили и Рыгор з Янкам, и я с Габрэлихай! Што и як там было?... ат, было, бо было, але с таго часу ня ездзили на суд!....

*Ядвигин Ш.*

---

# Як мужыку палепшыць сваё жыццё.

*(прадоужэнне).*

Перш наперш у саюзы павинны злучацца дворные парабки и уся дворная чэлядзь: жывуць яны усе разам, як адна сямья, працуюць на аднаго пана,—роуна у их работа и заплата за яе, роуно здзирство панское. Им лягчэй як усим иншым вёсковым работникам зразумець, скуль выйшла беда их, лягчэй згаварыцца, чаго дамагацца ад паноу и яким способом. Зямли у их найчасцей саусим нима, и тольки работа у двары дае им можносць жыцця. Дзеля таго и палепшэння сваго жыцця могуць яны чэкаць тольки тады, як дабьюцца лепшых варункоу працы, каротшаго рабочаго дня, большае платы.

Каб гэта зрабиць, трэба усим разам исци и моцна злучыцца у свой саюз. Усим добра ведамо, што як кожны парабок пачне асабно дабивацца чаго-небудзь, то ня тольки ничога не дабьецца, але и дрэнна яму будзе, бо пан яго вон са службы прагониць. Калиж усе дворные работники заступяцца за сваго таварыша, то з ими пан ничога ня зробиць!

Як у кожным двары зробицца гэтаки саюз дворных работникоу, то трэба, каб усе суседние двары ведали адзин аб другим, каб разам згаварывалися як лепей ваеваць за сваю долю и таким парадком злучалися у вялики и моцны саюз вёсковай працавитай беднаты. Гэта будзе вяликая сила у вайне з багачами за шчасце усяго працуючаго народу!

Але у вёсцы жыць цяжка не адным тольки парабкам, ня тольки тым, хто саусим ня мае зямли, але и усим малоземельным мужыкам, чыншэвикам, арэндаторам и другим. И яны усе, кали хочуць дабыць сабе лепшое жыццё, павинны так сама злучацца у саюзы, як и парабки у двcovarох. Усе, каму цяжка жыць, павинны меж сабой згаварыцца найперш у сваёй вёсцы, а пасля са сваими таварышами нядоли ва усих вёсках сваей воласци чы парафии. Так зробяцца саюзы волостные або парафиальные, и яны ужо патрапяць абараняць свае супольные справы, патрапяць заступицца за сваих таварышоу, кали на тое будзе патрэба.

У сёлетним году у нашым краю было шмат забастовок па вёсках; гэтыми забастоуками думали дабицца ад паноу большэй платы за работы у поли. Але аказалося што и забастоуки ничога не памогуць мужыком, кали ня будзе у их добрай згоды, кали ня будзе таких саюзоу, як мы тутака написали.

Бывало так: адна вёска пастанауляе не працаваць за малую плату и дамагаецца большэй. Тым часам другая вёска спусциць крыху цану, прыходзяць да двора чужые мужыки працаваць за меншую плату, а тые, што хацели забастоукаю дабицца большэй платы, застаюцда саусим без заработкоу.

Бывала и гэтак, што шмат суседних вёсак згаварывалися патрэбоваць ад памешчыкоу большэй платы. А паны, замеж таго, каб плациць им, скольки яны прасили, сваими дворными парабками пры помочы машын пазбирали ураджай без падзёных работникоу. И тут мужыки ничога не выиграли. А чаму?

Таму, што не было у их саюзоу, што ня шли разам усе мужыки. Так было у сёлетних забастоуках, так бывае и у инших справах. Пара ужо зразумець мужыкам, што тольки братнею згодою, тольки саюзом усих вёсак и дварoу вёсковая працавитая беднота зможэ скинуць здзирства багачоу, зможэ бараниць сябе ад уселяких крыуд, здзеку ды гнибення.

И усе павинны ведаць, што рабиць гэтакие саюзы нима што баяцца: гэта так сама профэссиональные саюзы, як ёсць па гарадох саюзы краунцоу, шэуцоу, сталяроу, друкароу, слесароу и инших работникоу. Усе яны маюць адну цэль—палепшыць сваё цяжкое жыццё, и за гэта нихто их караць ня мае ниякого права. Яны маюць свае уставы, и гетые уставы утверджае само правицельство.

Вяликая и святая справа—гэтые мужыцкие саюзы, и прыступаючы да устройства их трэба добра падумаць, як их рабиць.

Аб усих справах аднаго двара чы адной вёски павинны пастанауляць сабраушыся разам усе тые таварышы, што належаць да саюзу у тым дворы або вёсцы. Але як трэба пастанавиць аб таких справах, каторые належаць да усей воласци або парафии, тады павинны сабрацца таварышы з усих дварных и вёсковых саюзоу. Ведама, што рабиць гэтакие вяликие сабрання ня лёгкая рэч, а и палиция па вёсках часта суне свой нос туды, дзе ня мае на тое ни права ни патрэбы. Ды и мужыком на гэта не заусяды часу стане, и надта далёка исци прыходзицца. Але на усё гэта ёсць рада.

Дворные и вёсковые саюзы павинны ад кожнаго двара и ад кожнай вёски выбраць таких людзей, каторым усе таварышы верапь, и гэтые выборные людзи з усей воласци чы парафии павинны збирацца усе разам у адным месцы и тутака ад имяни выбраушых их таварышоу радзиць и пастанауляць аб агульных справах. Гэта будзе *валасная рада або прауленне саюзу.* Усё, што пастановиць гэта рада, павинны свята спауняць усе таварышы з дворных и вёсковых саюзоу сваей воласци; иначэй увесь заюз ня будзе мець силы.

Але канечне, павинны быць и гэтакие людзи, каторые глядзели бы за тым, чы нима якой важной справы, аб каторой мусиць пастанавиць валасная рада, сазывали бы гэту раду, кали трэба, и даглядали, каб спаунялися усе пастанауленния яе. Таких людзей выбирае *сама рада,* и яны тады называюцца *валасным комитэтом.*

Вот, кали усе вёсковые работники зробяць гэтакие саюзы, тады яны змогуць дабицца таго, чаго ужо добилися работники па гарадох ды мужыки у других краёх, перэстануць галадаць, пачнуць жыць лепшаю, шчаслиушаю доле́й.

* * *

Мы на пачатку ужо казали, што цяпер на свеци таки парадак, пры каторым заусяды будуць и багачы, и бедные; адны людзи будуць жыць з цяжкай працы других, сами ничога ня робячы. Алэ гэты парадок—ня вечны: зрабиу яго ня Бог, а людзи, и людзи сами пераменяць у ём усё злое. Тольки трэба ведаць, што зрабиць гэту перамену зможэ тольки увесь рабочы народ, *уся вёсковая и местовая працавитая беднота,* кали усе разам пойдуць па адной дарози. Дзеля таго усе мужыцкие саюзы *павинны злучацца праз сваи камитэты з рабочыми саюзами и партиями у горадзи.*

Нехай тольки усе вёсковые работники, усе мужыки зразумеюць и добра помняць, што *яны сами могуць палепшыць сваё жыццё,* нехай сами пастараюцца аб сваих саюзах, и тады яны дабьюцца усяго, што патрэбна для усей працавитай бедняты.

# Усяго па троху.

## Писулька да рэдакции.

Шаноуна Рэдакция!

Прачытаушы у № 2 „Нашой Доли“ артыкул пад тытулам „Пагром“, хачу слоу кольки сказаць ад сябе и дзеля таго прашу выдрукаваць тое, што Вам прысылаю:

### Ешчэ аб тым самым.

Хто з нас, браты, ня чуу аб зладзействи и цэлых рэках крыви нявинной, слёз жон, удоу и сирот, вылитых у Седльцах?—Пагром! на адну мысль аб гэтым сэрцэ дрыжыць, цело стыне. Браты, кажыце и вразумляйце адзин другому, каб на нас ни за якие грошы, ни за якие скарбы ня брызнула братняя кроу нявинная, будзь то жыдоуская, русская, польская, наша чы иншая, японская чы китайская, баранице каждаго и ня верце, хто Вам кажэ, што хто иной веры, той непрыяцель. Усе працавитые людзи—то вашы таварышы и прыяцели, и у громадзе сила; чым народ болей мае взаемных интерэсоу и бед, тым ён сильней павинен быць звязаны с сабою, тым ён скарэй палепшыць своё жыццё.

Вашы праудзивые прыяцели тые, што працуюць на рали ды у фабрыцэ, што ядуць хлеб, бульбу и жывуць у бедной хаци, а не у палацах и дварцох, ничого ня робячы, пьюць вино заморское, ядуць птушки и рыбы заграничные.

Есць на свеци злые людзи, падобные да дзиких шалёных звероу, яны называюцца „хулиганы" и маюць свае кумпани, прозваные „чорносеценными"; яны устраиваюць пагромы и бьюць невинных людзей, купаюцца у их крыви. Стольки ужо крыви яны пралили, што бы дауно у ёй сами патапилися.

Вон ганице тых людзей, так каб им ахота атпала наусягды!

Ведайце, што пляма такая на век застаецца, и хто руки у крыви нявинной запэцкае, той ад ёй не адмыецца, на што маем шмат прыкладоу.

*Чыжук Ошмянски.*

---

## З Беларуси и Литвы.

**Вильня.** У нас трываюць обыски и арэшты. Без мала не праходзиць дня, каб палиция не перэтрасла адну—две хаты, не арыштавала кольки людзей. Вось у панедзелок палиция зрабила обыск у рэдакции газэты „Эхо", забрала усе писульки и арыштавала 5 людзей. Пасля прышла палиция да книгарни Шлапэлиса, што прадае книжки литоуские и беларуские, и у яго забрала неякие писулки и книжку беларускую „Хрэст на свабоду". Так само, як людзей, палиция арыштуе и газэты. Польской газэци „Эхо", каторая маець цэль бараниць справы работникоу, дык просто жыцця нима. Абы тольки газэта паявилася на свет Божы, дык зараз прыходзиць палиция и забирае. Добра тольки, што людзи так хутка раскупляюць гэту газэту, што праз адзин дзень трохи не усё распрадаюць.

Такаяж доля и литоуской газэты „Naujoji Gadynė".

Работники, хаця правицельство их цисьне и арыштуе их газэты, як кольвечы таки сабе даюць раду. Яны добра зразумели, што у грамадзи—сила, и дзеля таго злучаюцца у саюзы. Нядауно пачалася бастоука сталяроу. Яны трэбуюць большэй платы и каротшаго рабочаго дня.

### Выборы у Государственую Думу у Виленск. губ.

Хаця выборы у Государственую Думу, можно сказаць, ешчэ за гарами, а памешчыки у Виленской губэрни ужо пачали прыгатауляцца да их. Сцеражонаго и Бог сцеражэ—кажуць памешчыки; пакуль там што будзе, а яны ужо павыбирали выборные комитэты немаль в усих паветах апроч ашмянскаго и лидзкаго. 4-го акцябра у Вильни маюць зъехацца усе члены выбранаго праз памешчыкоу губэрнскаго комитэту. Тутака яны будуць радзицца, яким способом пакеравaць выборами так, каб были выбраны их (памешчыкоу) кандыдаты. Ня дрэнна былоб, каб и мужыки надумали аб выборах.

**З Минскаго повету.** У маёнтку Пятроушчыни, каторую трымае у арэндзи Паулюць, было такое здарэнне. Прышоу неки бурлак и кажэ: „Вот я чэлавек благонадёжны"—и пры гэтым паказау паперку, у каторай было написано, што ён запрауду благонадёжны—„Я ведаю, што ваш маёнтак хочуць спалиць; кали вы мне дасцё 25 рублёу, то я гэтак зраблю, каб яго не спалили".—На гэта яму Паулюць адказау, што ён дружыць з сваими суседами-мужыками и ничога не баицца, а радзиць исци „благонадёжнаму падарожнаму" сваей дарогаю. Праз кольки дзён пасля гэтаго маёнтак Паулюця пусцили з дымом. Дагадауся тады Паулюць, хто палиць двары. „Благонадёжны падарожны" больш не паказауся.

### Слоним.

У паветах часта цяпер бываюць сабрання багатых памешчыкоу.

На гэтых сабраннях памешчыки талкуюць аб выборах у гасударственую думу.

Агульны зъезд памешчыкоу мае быць у горадзи Вильни.

### З Польшчы.

Ваенное палаженне, каторае и па дзись дзень висиць над усею Польшчэю, не патрапила таки уцишыць рэволюцыйнаго розруху па городох Польшчы. Як дауней так и цяперока, што дзень гозэты прыносяць весьци аб мордаванню и разбояк аб обысках и арыштах. Ваенно-полевые суды и разстрэлы не памагаюць ничога.

У Варшави народ неяк зжыуся з военным палажэннем. Обыски на вулицох и вечные арышты ужо не пужаюць никога. Варшавяки якбы жартуюць з усяго гэтаго. Часам тольки, кали прагрымиць па вулицох, гром салдацких выстрэлоу народ у трывози кидаецца ва усе стороны, як хусты бялеуць твары людзей. Але усё гэта скоро праходзиць, на вулицох зноу закипае жыццё, зноу чутны смех и гомон вясэлых варшавякоу. Найбольш таки ад ваеннаго палажэння церпяць работники. Яны, што на сваих крэпких плячох вынясли усю цяжэсць доугих бастовок, цяпер, хоця церпяць голод, таки не трацяць надзеи у близки канец сваго цяжкаго жыцця. Злучэные у крэпкіе союзы, работники Польшчы ня гледзючы на военное палажэнне и на ваенно-полевые суды, усё таки маюць вялікую силу, з каторою мусиць счытацца правицелство.

# Па Расеи.

## Па вёсках.

Ад вёсак идуць пужливые весьци: мужыки рухаюцца!

З Казлоускаго павету, Воронежской губэрнии пишуць, што цяпер мужыки сваим розумом разтауковываюць и разъясняюць найтруднейшые справы палитычные. Але найбольш их цикавиць гэта тое: яким способам прымусиць памешчыкоу и правицельства, каб аддали зямлю працуючэму народу. На валасных сходах мужыки пастанауляюць не браць зямли ад памешчыкоу, не служыць за парабкоу, кали памешчыки ня будуць плациць па устаноуленой цане. Падаткоу так сама пастанавили не плациць. А кали правицельства назначыць лицытацию скацины, то нихто з мужыкоу не мае права прыйсци и купиць. Да думы адна часць мужыкоу ня хочэ выбираць дэпутатау, кажучы: „ня стоиць“, бо усё роуно их разгоняць як яны захочуць зямли. А другие канешне хочуць пасланць сваих дэпутатау, але таких, каторые не адступяць ни перэд якою лихою силою.

Сходы збираюцца пры стражниках, але палиция не чэпае мужыкоу.

Ешчэ летось мужыки пастанавили прагнаць з сваго обчэства тых, каторые служаць у палиции.

После таго прыгавору часць стражникоу зразу кинула службу, а часць подала прашэння аб увальненни. Спрауник спалохауся, што астанецца бэз памочникоу и паслау тэлеграму да губэрнатора пытаючысь: „Што рабиць?“ Губэрнатор прыказау аддаваць пад суд тых стражникоу, каторы бэз прычыны кидаюць службу. Бедные стражники асталися; але такая там их служба: як з камменя вада.

(Страна).

## Напасць чужынцоу.

Да Житомирскаго павету прыехали на днях кубанские казаки. Ходзяць весьци, што казакоу прыслали на помоч палици и што яны будуць размешчэны на кватэры пры станах. Мужыки вельми зацикаулены и задзиулены новым невиданным войском. А некаторые дык ня вельми верачь, што прысланные войска належаць да Расейскаго царства.

Прымерам можэ служыць ось якая гутарка: У пиунай крамцы сядзело кольки казакоу кубанских; вот уходзиць мужычок и убачыушы казакоу, проста палец палажыу на губах з дзива. „А што прыглядаешся?“ спытау адзин казак, падбегаючы да мужыка. „А гляжу, бо як живы, то ешчэ не бачыу такога войска. З якога вы царства и чые вы подданые.?“ пытау мужык. „Мы русские подданые, мы дабро робим для сваго гасударства. Мы успакаиваем народ“. Мужычок паглядзеу, пабледнеу, плюнуу и пашоу бурчачы. „Якоеж гэта яны нам маюць дабро зрабиць?“.

# Гутарки аб гаспадарцы!

*(Прадаужэнне).*

Усякое збожэ, як и чэлавек и усё жывое, каб расци и радзиць, павинно пиць и есци; ня будзе таго—згине з голаду чэлавек и скацина, згине и расценне. Разница тольки тая, што чэлавек и скацина ротом ядуць, а расценне сваими корнями. Як жэ гэта робицца?

А вось як. Перш наперш патрэбна расценню вада, бо яна распушчае па крышэчцы зямлю, распущае яе так само, як соль або цукер, тольки што соли чы цукру шмат у шклянцы вады распусцишь, а зямли стольки, што и вокамъ не убачыш. Праверыць гэта ня трудна. Вот вазьмице чыстай крыничнай вады, налейце у саган чы у гаршчок яки и гатуйце яе, пакуль уся яна ня выкипиць. Пасля зноу у гэты самы гаршчок ня мыушы яго налейце вады, зноу выгатуйце яе и так зрабице тры чы чатыры разы. Тады на сценках гэтаго гаршчка абачыце накип. Вось гэта накип и ёсць тое, што вада з зямли распусцила; вада паром уляцела, а у гаршчку засталася земля, катора у ёй была распущена. А ещэ лепей абачыць гэта можна у нямытым самавары чы у катлох; там заусяды праз яки месяц—други накип такая збираецца, што пасля добрая гаспадыня, каб самавару не папсаваць, адбиваць яе мусиць.

Як кинеш зярно у зямлю, а земля як трэба мокрая, то яно пачне там пучнець и выпушчае перш наперш маленьки расток, каторы и цягне з зямли воду, а разам з вадою и крыху зямли у ёй распущэной и усё, што расценню патрэбна, што натура для яго прыспасобила. Гэты расток выцягиваецца усё глыбей и глыбей у зямлю, а як ужо акрэпне и падрасце, тады пачынае сам сабе яду шукаць—знойдзе у грудцы зямли таки каменчык, што цэолитом завецца, абниме грудку сваими валасками и трымае так моцна, што як пачнеш выцягаць з зямли маладое расценне, так напэуна выцягнеш яе з гэтаю грудкаю. Ось у гэтай грудцы зямли и ёсць патрэбные расценню каменчыки, тольки их не абачыш простым вокам, бо яны надта дробненькие. А з растка и карэннёу выступае таки квас, што у ём каменчык распушчаецца, и расценне гэта пье и цягне, пакуль ня выцягне таго, што яму карыстна. А тым часам вырастаюць другие карэнчыки и робяць тую самую работу, катору рабиу першы расток, так сама як и ён шукаюць сабе яду. Расценне мацуецца, вырастае, выпушчае листы. Як тольки зазеленели листы, и яны идуць на надмогу карэнням, тольки што для их ёсць другая работа: яны з паветра (воздуху) сабираюць усё, што патрэбна для их жыцця, и выпушчаюць вон усё для жыцця нягодное и непатрэбное. Кали знайдзе расценне у молодосци добрую яду, то и добра вырасце и дасць багатое жниво. Ня знойдзе яды—згине або вырасце слабое и без умалоту.

И пачали вучоные людзи думаць: якую гэта яду расценне цягне з зямли, и чы ня можна часам чаго падсыпаць у зямлю, як каню аброк, чы ня можна падкармиць расценне, як скацинку. И даведалися людзи, што расценне з зямли найбольш бярэ фосфор, азот, „кали“; усяго гэтаго кожнаму расценню патрэбна асобная мера: нехай пападзецца расценню такая земля, у каторай будзе шмат азоту, а нима „кали“ и фосфору, так расценне на ёй ня вырасце; або нехай будзе такая зямля, катора мае тольки „кали“ або тольки фосфор, а других ня мае сäусим, то и тут ничога ня узыйдзе. И кольки бы чэлавек ни працавау—усё роуна ничога з яго працы ня будзе.

(Далей будзе у № 4 Н. Д.).

*Антось Асина.*

---

# Бэларусам.

Встаньце, хлопцы, встаньце, братки!
Встань ты, наша старана!
Ужо глядзиць к нам на палатки
Жыцця новаго вясна.

Чыж мы, хлопцы, рук ня маем?
Чыж нам силы Бог ня дау?
Чы над родным нашым краем
Луч слабоды не блишчау?

Выдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
И прачнецца ад дрэмоты
З вами наша старана!

*Якуб Колас.*

## Ад Рэдакціи.

*Першы нумэр «Нашае Доли» па прыказу Виленскаго губэрнатора палиция конфискавала. Разышлася тольки палавина — пяць тысячоу, а пяць тысячоу палиция забрала, так што ничого схавалиь не удалося, и дзеля таго высылаць першы нумэр никому ня можем.*

*Просим у сих нашых чытацелёу писаць да нас, писаць аб усём, што дзеецца аб крыудаз сваих и радосьцях, хто як умее. Кали патрэбна будзе каму якая парада—пытайцеся—адкажэмо· Ведайце добра, што «Наша Доля»—газета вёсковых людзёу.*

*Прысылаючы грошы просим писаць, якое выданне «Нашае Доли» присылаць: чы друкаваное рускими литэрами, чы польскими.*

*Адресоваць грошы трэба канешне так: Вильня, Рэдакция «Нашае Доли», Ефстафію Сымоновичу. Хто хочэ палучаць газэту, нехай паспишае з прысылкаю грошэй.*

Рэдактор-выдауца **Иван Тукеркес.**



Типографія «**Артель Печатнаго Дѣла**», Вильна, уг. Большой и Рудницкой ул., д. Залкинда.

**Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй)**

**№ 4.**

Вильня, 27 сенцябра 1906 г.

# Наша Доля

Год I.

первая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

**ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.**

Адрэс рэдакции и администрации: *Вильня, Виленская вулица 32.*

**Цана:** з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—**3 руб.**, на 6 месяцоу—**1 руб. 50 кап.**, на 3 мес.—**75 кап.**, на 1 мес.—**25 кап.** Без дастауки и перасылки: на 1 год — **2 р. 40 к.**, на 6 мес.—**1 р. 20 к.**, на 3 мес.—**60 кап.**, на 1 мес. — **20 кап.** За границою: на 1 год—**4 руб.**, на 6 мес.—**2 р.**, на 3 мес.—**1 руб.** Перамена адрэсу—**20 кап.**

АБЪЯУЛЕННЯ прыймаюцця на наследний страницы на **20 кап.** за линейку пэтиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамилею и адрэсом таго, хто яе присылае. Адрэс тольки для ведама Рэдакции.

## Ад редакции

*Абъяуляем што дзеля прычын ад Рэдакции незалежных »Наша Доля» больш выхадзиць ня будзе. Грошы, прысланые* **не на имя Ефстафія Сымоховича** *ляжаць да гэтуль на почци у Вильни и дзеля таго просим их адтуль натрэбоваць назад. Другим нашым чытацелём па адличэнню платы за высланые нумэры, грошы будуць адосланы. Аб уселяких справах редакцин и администрации просим писаць да книгарни М. Пясэцкой-Шлапэлис у Вильни на Благавешчэнской вулицы № 13. Там жэ можна дастаць астаушиеся нумэры «Нашэй Доли“.*

*Вильня 27 верэсня (сенцябра).*

Час новых выбороу да Гасударственной Думы прыближаецца. Першые начали ужо рухацца памешчыки,—и ня дзива. Якая была старая Дума—то была, а усёж таки ведамо, што папала у яе жменька таких людзей, каторые старалися на праудзи палепшычь жыццё усей працавитой беднаты.

Гэтая невяликая жменя шчырых прыяцелёу народной справы бачыла, што народу мало адной тольки свабоды, што яму еичэ патрэбна земля. Бачыла яна и тое, што там, гдзе народ за землю паднимауся процну паноу, грабиу ды палиу их двары и палацы, правицельство насылало на мужыкоу войска; и шли праз вёски карацельные атрады, а гдзе яны прайшли, там лилася кроу мужыцкая, шли з дымом хаты и усё дабро мужыкоу. Гледзячы на усё гэта, зразумели выборные ад мужыкоу ды работникоу, што зямлю треба дабываць ня силаю, не грабежом, а законом, и дзеля таго начали у Думе дабиваццa новых земельных законоу. Перш наперш хацели яны узяць зямлю (за плату або и без платы) ад тых, хто мае яе многа (ад казны, памешчыкоу и других), и усим тым, што або саусим ня маюць, або маюць надта мало зямли, даць яе стольки, каб кожны мог далей жыць на людзку,

карыстаць з навуки и усяго, што дала яна людзям.

Ведамо, што з таго ничога ня выйшло, бо Дума скоро была распушчэна. Але усё гэта нагнало страху наменчыкам. Што першую Думу разагнали, гэта енчэ ничога не значыць: збярэцца другая Дума—можэ и яе разгоняць, — але таки прыдзе той час, кали народные выборные змогуць споуниць волю наслаушаго их працавитаго народу. Разумеюць гэта наменчыки и дзеля таго начали ужо цяпер рухацца каля выбороу. Нихто сабе ня хочэ зла, ня хочуць яго и наменчыки—ня хочуць разлучыцца з сваёй зямлёю; вось и робяць яны цяпер зъезды и згаварываюцца, як дабицца таго, каб у новую Думу напали тольки тые людзи, каторые будуць проциу уселяких новых надзелоу ды новых земельных парадкоу.

А вёсковы народ енчэ спиць. Спиць, бо ня ведае, якие будуць новые выборы, кали яны будуць, чы варта исци выбираць дэпутатоу, чы не? Уселяк у нас аб гэтым кажуць: адны ня хочуць выбираць дэпутатоу, бо думаюць, што Думу изноу разгоняць, кали яна станець за справу народную; другие думаюць, што треба прабаваць новаго шчасця.

Але сцеражонаго и Бог сцеражэ: хоць працавиты народ и не сказау сваего апошняго слова аб выборах, усёж таки трэба мужыкам ды работникам быць гатовыми да их. Трэба, каб яны ведали, каго выбираць у Думу, хто праудзивы прыяцель працавитаго народу. И усе павинны зразумець гэта, што и у работникоу, и у мужыкоу адны непрыяцели, адны справы, адна дарога каб палепшыць сваё жыццё. Дзеля таго усе яны павинны исци разам; разам дабивацца таго, каб у Думе мець силу, мець шмат сваих людзей.

У прошлых выборах непрыяцели народнаго шчасця и свабоды старалися раздзелиць нашых мужыкоу-беларусоу: каталикам казали, каб ня ишли яны разам з праваслауными, каб падавали свой голас абы за каго, каб тольки за каталика; праваслауных угаварывали, каб чуралися каталикоу ды выбирали канешне свайго праваслаунаго. Гдзе мужыки были цемные, гдзе яны наслухали хитрых слоу сваих непрыяцелёу, там не змагли яны на агульных выборах от губерний выбраць сваих дэпутатоу, и гэтаким парадком праскачыло у Думу больш выборных ад наменчыкоу ды усяких багачоу.

Гэтак быць цяпер не павинна!

Нехай же добра гэта помняць усе вёсковые людзи и усе працуючые, нехай идуць разам, бо усе яны—браты, и тады на новых выборах змогуць яны выбраць и наслаць у Думу сваих шчырых прыяцелёу и заступникоу.

---

## Разумные ды не на дурня папали.

У Варшави палиция унадзилась трасци людзей на вулицах. Идзе сабе чэлавек спакойне, раптам бац—ватага палицэйских и крыкне: „Руки уверх“! И папла рыцца на кишэнях, не мяркуючы, як свиня у гародзи. Добра, як пусто! Але як маеш якую забароненую паперку, газэтку, а крый Божэ рэвольвэр—ну, пойдзе тармасаванне ад аднаго участку, да другого, цягаюць ад Ананаша да Каифаша, пакуль ня вывяжэшся, ня пусциш туману у вочы „храницелям парадку“, або не пашмаруеш, як следуе, свербячых пальцау.

Каб доуго не развадзицца, скажу коротка пра адно здарэнне:

Идзи сабе вулицей бунчучны пан. Аж торк палиція: „Руки уверх!“ крычаць. Пан шурциць да кишэни, гадзинник у адну руку, партманку у другую и як бусел разпушчэными скрыдлами, так ён з паднятыми руками стау и смяецца перэд загневанным законом.

А закон, знаком тым палицэйские, сярдуе, просе и усё прыгледаюцца да партманки, як да дынаменту, або бомбы, тольки з близшой мэты.

Перэшукали, перэтрасли—пуста! Але усё таки ведуць да участку. Прывели, паставили перэд прыставомъ. Адзин з гарадавикоу вымае рэвольвэр браунинг з сваёй кишэни и кажэ: „Ось гаспадин, а ось—яго рэвольвэр и з гэтыми славами

палажыу яго на стол. Прыстау падскочыу да пана ды давай: „Как ты смееш, бунтаущчык, насиць аружье без разрэшэння начальства? „Я вам пакажу“ и тычэ кулак пад нос пану.

Але тут пан з сваёй стараны асрожыуся, адчыниу партманэ, выняу писульку и кажэ: „Вы ня маеце права мяне лаяць, бо я маю дазваленне насиць. Вот яно чытайце! А рэвальвэр мой вярнице мне назад“.

За рэвальвэр гарадавога ды у кишэнь. „Не маю тольки часу—кажэ—а тоб на вас паскаржыуся куды треба“..

И вышоу, смяючыся. Прыстау накинууся на гарадавого за тое, што прывёу франта з разрэшэннем. А гарадавы злавау у душы, што прывёу франта з разрэшэннем, але без рэвальвэра. Франт насвистывау сабе, идучы вулицой. Чаму не свистаць: рэвальвэр найлепшаго калибру, вартуець рублёу з дванцаць пяць; сам як з вадою прыплыу. А Смех? Смех? Авечка серэд воукоу; а воуки ани чэп!

*(Крапиука)*

## Якое правицельство у Франции.

Францию цяпер завуць „рэспублика“. Штож гэта значыць? Чаму яе не называюць гасударством, як напрыклад Рассею, або каралеуством, як Гишпанию?

А вось чаму. Ня мае Франция таких кличэк, бо нима у ёй ани Цара, ани караля. Народ францускй сам гаспадарыць у сваёй зямли. Ен выбирае сабе *прэзыдэнта* на сем годоу, плациць яму пэнсию и кажэ яму быць разом и галавою и слугою усяго краю. Як прэзыдэнт выслужыць свой срок, тады ён таки самы чэлавек, як и усе: можэ сабе и гараць, и касиць, и пастухом служыць, можэ и паном быць, кали на тое грошы мае.

Прэзыдэнт разом з министрами и чыноуниками вядуць парадок ва усей рэстублицы и спауняюць усё, чаго трэбуюць законы.

Законыж пишэ не прэдзыдэнт и не министры, а *парлямэнт* (тое што у нас Дума). Парлямэнт францускй мае две палаты (адзелення): адна палата дэпутатоу, другая—сэнатороу.—Кожны член палаты дэпутатоу мусиць мець ня менш як 25 годоу, мусиць быць выбраны ад сотни тысяч людзей. Выбираць мае право кожны мужчына, каторы мае 21 год и не быу пад судом. Выборы сэкрэтные (нихто не знае, за каго кожны чэлавек падае голас) и простые (а не праз уполномочэных); выбираюць дэпутатоу на 4 годы.—Да палаты сэнатороу выбираюць членоу зъезды выборшчыкоу у кожным дэпартамэнци (шое, што у нас губэрния) Сэнаторы выбираюцца на 9 годоу. Праз кожные тры годы трэця часць сэнатороу идзе у атстауку, да хаты, а на гэта мейсцэ выбираюцца новые людзи. Новые людзи прыносяць часта з сабою и новые погляды народу, новые жадання, а з ими и новое жыццё. Таким парадком старые и аджыушые свой век погляды ня вельми запушчаюць корни у Француским сэнаци.

Кожнаму сэнатору и кожнаму дэпутату народ плациць пэнсию па дзесяць тысяч франкоу (на нашы грошы менш як чатыры тысячы рублёу) у год.

Усякая думка аб новым закони, усяки проект новых парадкоу пасылаецца да парляменту: або да палаты сэнатороу, або да палаты дэпутатоу. Тольки проекты, якие назначаць падатки, и рахунки расходоу и даходоу на кожны год—абсуждаюцца перш у палаци дэпутатоу, а пасля у палаци сэнатороу. Усе чыноуники—ад наменшаго да найбольшаго, хоць и назначаюцца прэзыдэнтом, але служаць пад контролем (даглядом) парлямэнту. Калиб, прымером, каторы министр аказауся злодзей, то парлямэнт зараз яго пад суд! И паедзе пан министр туды, куды Макар целят не ганяу!

Прэзыдэнт адкрывае и закрывае парлямент, але распусциць саусим палату дэпутатоу без згоды палаты сэнатороу ня можэ.

Часам бывае вось яки разлад: парлямент настановиць яки колечы новы закон, а прэзыдэнт яго не спадабае и просиць змяниць. Тады парлямэнт бярэ закон назад и пярэглядае други раз. Але як ня знойдзе у ём ничога благога, ничога што трэба выкинуць або дабавиць, тады падае прэзыдэнту други раз той закон и кажэ- „Пане прэзыдэнце! Мы еще раз перагледзили новы закон и прызнали, што ён патрэбны и прыгодны для усяго францускаго народу. Просим падписаць!“

Тады прэзыдэнт ужо не мае права адказацца ад подпису, и закон с таго часу мае силу. Яго спауняюць усе: и сам прэзыдэнт, и министры, и чыноуники, бо ён—воля народных выборных. Ось яки парадок ва Франци. У иншых краёх людзи жывуць иначэй, але аб их пагаворым другим разом.

# СОЛЬ.

Усим добра ведамо, як важна у жыццю нашэм соль: зраби якую кольвек страву бяз соли—то яна ня будзе нам смакаваць.—Соль значыць дадаець смаку; апрыч таго соль, як кажуць докторы, патрэбна нам для здароуя.

Кожны чалавек зъедае у год больш пятнадцаци фунтоу адной соли, а глядзице кольки гэта прыдзецца на усих людзей разом? А соль ня только идзе нам у яду: яе бяруць такжэ на фабрыки для усялякиx патрэбносцей. И скуль дастаюць людзи столькi соли? Неж нигдзе ня сеюць и не видаць каб у нас сабирали; купляем мы яе у крамцы, а ня ведаем скуль яна прыйшла.

Вот аб гэтым мы з вами и хочэм пагаварыць цяпер. Сусед мой Франук, як вярнууся да хаты з войска, са службы, (—а служыу ён у матросах и ездзиу на мору на вяликих лодках, што караблями завуцца,) гаварыу, што у моры вада неякая салёная,—не такая як у нашых рэчках; яе пиць ня можна заусим—супроцъ яе наша вада выдаецца салодкою. Усе нашы вясковые и я сам ня надто хацели гэтаму верыць; думали мы, што ён байки баець; аж вот пасля, пачытаушы трошки книжачэк, набачыушы тае мора, я и даведауся, што Франук прауду казау. И дзуным мне здалося, чаму гэта две, здаецца такие самые воды, маюць розны смак. Давай я дапытывацца и даведауся таки, чаму гэта так.

Соль, хаця яе заусим мало, была у зямли з самаго яе пачатку. Ведама вам, што соль добра распушчаецца у вадзе; вот выпадзе дождзик, прамочыць зямлю, соль распусцицца и з вадой паплывець у ручайки, пасля у рэчки, а потым и у мора.

Знаем мы усе, што як нальеш вады у миску и выставиш яе летам на двор, то вада у мисцы не пабудзе доуго—высохнець уся, а як сонцэ прыгреець, то высехне надта скоро. Так само высыхае вада и у моры, а соль астаецца; гэта вядзецца дауно, дауно, з самаго пачатку зямли, и цяпер у моры ужо шмат набралося соли, бо вада, што прынесла яе з рэчэк, ужо высохла; и таму у моры вада салёная.

Каб палучыць соль з марской вады, людзи гэту воду гатуюць у вяликих мисах. Вада уляциць парам, а соль астанецца. То што робиць агонь сваею гарачасцью, зробе и сонцэ, только на гэта трэба больш часу.

Далеко ад нас, едучы на палудзень у старану, куды бацяна, жураули, ластоуки и иные птушки ляцяць зиму зимаваць, есць край гдзе сонцэ так крэпко грэе, што нашэму брату цяжко дышаць. Не раз бывала у нас, што садзауки нашы летом высыхаюць, а нашэ сонцэ не так крэпко грэе, як тое. Вот и дадумауся той народ, што жывець у цеплых краях, каб солнышко яму давало з марской вады соль. Накапау ён на берэгу мора шмат садзаукоу, выбиушн глиной их дно, каб вада у зямлю не уцекла, и напаливау туды марской вады. Грэе сонцэ садзауки, вада высыхае и высыхае, а соль астаецса, як шмат вады высахне, соль и высыпецца на дно садзауки; тады яе сабираюць и разсылаюць на усе стораны света Божаго. У книжках нам кажуць, што даунейшая зямля была заусим непадобна да цяперашней. Там гдзе калисьци были далины, цяпер стаяць горы, там гдзе были рэки, цяпер их шма, там гдзе было морэ, цяпер суха—земля. Зрабилася гета таму, што земля у тых мейсцах калисьци паднялась—вот як расчына у дзежы. Падымецца земля, захопе кусок мора и адзелиць гэты кусок астального; зачне вада высыхаць, высохне уся, а соль и астанецца. Засыпяте гэту соль пяском, занясе зямлёй—и ляжыць так наша соль, Бог ведае як доуго, аж пакуль людзи не знайдуць яе и не выкапаюць усю. Так мы вот ужо знаем, што соль дастаюць з марской вады и капаюць з зямли. Цяпер пагаворым трошки аб тым, што такое соль и с чаго, скажэм мы, яна зроблена. Есць на свеци шмат усяляких металоу. Жалезо, што з яго робе каваль падковы, гвозди; медзь, што з яе зроблены самавары, краны; свинец што идзе на кули и шрот, серабро, золато, з

каторых куюць грошы. Гетые металы мы усе видзели и добра знаем; а ёсць метал надто дзиуный, бо хоць ён и блишчыць, як серабро, але не таки цвёрды як яно; мягки ён як воск и называецца натрий. Налейвады на серабро, з им ничога не зробицца—серабро астанецца серабром, а капни на натрий вады, так ён загарыцца, а часами, крэпка стрэле астанецца пасля яго нечто белое.

Давялося вам пэуне чувачь што, у прыродзи ёсць разные газы. Вот хаця бы у паветры, што мы дышэм, ёсць азот, кислород... Адзин ёсць газ што называецца хлор,—надта кепска пахне и заусяды бывае у парашку—хлорной ванне (яе завуць также бялильной извесцью па нашэму флёркам, што бабы бяруць пры мыцю бялизны и для бяленя палатна). Так вот гэты газ як злучыцца з металам натрием, то и зробицца соль. Можэ гэта и будзе выдавацца вам дзиуным, але прыпомнице, што нам хлеб робицца так само з двух матэрьялоу —муки и вады, а як даси хлеб на стол, то не спандзеш у ём особна ни муки ни вады. И у соли нема ни натрия ни хлору па асобку, бо яны там ёсць злучэные разам.

*Элька.*

---

# З Беларуси и Литвы.

Зя Буцлава да „Нашэй Доли" пишуць:

*Шаноуна Рэдакція!*

Кали знайдзецца мейсцэ у Вашэй „Доли", напишыцяе и пра нашу тутэйшую долю.

Жывём мы тут з ласки... и па старанню нашаго памешчыка, дастауши кавалак пяску—рали, рудога балота—сенажаци и голых броду—пашы, усяга на 10 дзесяцин. Падзелиушыся цяпер рэдка хто можэ пражыць з зямли, а заработкау тут нима, дык нашаго народу усюды па Расеи досиць ёсць за работай и за хлебам. Выгану сваего не маем, але з прадвеку дзержым ад памешчыка кусок балота каля самых нашых гумен и поля, а за тое адрабляем яму и жнивом и возкаю гною.

Да нашаго багацтва належыць ешчэ шмат лесу сэрвитуту. Пекные штуки тут были, дык леташни год памешчык узяу ды прадау на пяць тысячоу пнёу. Узнялися нашы мужыки за гэта и давай раздицца, што рабиць, аж тут кажуць: лес то сэрвитутны, але памешчыки сёлета у силе, пачни што, дык зяраз атрад казакау прышлюць и ани пикни, ешчэ кармиць може прыдзецца. Думали прашэнне падаваць, але так и осталося. А памешчыку шанцуе: кали наш брат з бядоты суки падбирацъ пойдзець у гэты лес, дык або сякеру адбярэ лясник, або трапиць можэ пад бизунок урадника,—а у памешчыка нихто ни сякеры не адбирау, ни спины ни адзин палицэйски за наш супольны лес не перахрысциу. И казакау не было як памешчык лес сек. А што былоб, каб гэта мужики папрабавали сеч? не дай Бог: „крупные аграрные безпарадки!"...

Урадзило сёлета не завидна; бульба найгорш: и малая, и пагнила. А земскихъ падаткоу сёлета ад леташняго удвайне больш плациць выпадаець. Выкуп нибы даравали, а за тое, вот видзиш, у другим шчоци падбавили, и выходзиць: ня кием, дык палкой! як я парахавау, дык з нашай воласци выпадаець можэ кал 2000 рублёу земскихъ падаткоу. А на адных стражникоу, што ёсць штук з дзевяць у нашым мястэчку, выходзиць кал 30 руб. у месяц, у год больш трох тысяча. Вот куды нашы грошы дзеюцца. А ешчэ стражники дзивуюцца, за што на их народ не ласкау!

Да нашаго багацтва ещэ належыць начальная школа. З волосьци мы цлацим на яе чатырыста рублёу. Сёлета можэ яких з паутараста вучнёу ёсць, бедные, яны там як селядцы у бочцы; чужых валасцей дзяцей дык и не прымау вучыцель, не было мейсца. А вучыцель адзин, другого нема ещэ, дый той не па мысьлях нам, не глядзиць за дзетками, як дауней бывала другие глядзели; кажэць: на тое у их бацьки есць; и да навуки не цикавы; на нашу гэткую школу, ды як цяпер и двохклясную, трэба учыцеля учонаго, больш як з маладэчнянской сэминаріи.

Маем косцёл небагаты, але паказны: вялики, пекны, тольки не даець нам Бог такого ксендза, як у людзей. Наш ни до навуки, ни до жыцця: ён не знаець ни нашай мовы, ни нашаго народу. И гэтак найбольш коля нас по суседних порафьяхъ: усё лицьвяки ды жмудзяки. Их бы послаць у сваю старану, а да нас своих назначыць дык не: на Литву и Жмудзь шлюць нашых, а да нас полякоу

и найбольш лицьвякоу ды жмудзякоу, дзеля якой потрэбы? Каб таким пародком польскосць надтрымаць у нас и на Литве и Жмудзи?...

А за тым жывице здаровы!

Астаюся ваш чытацель з Буцлава.

*Адам Сталюк, па прозвишчу Альховая Тычка.*

**З Троцкаго павету** нам пишуць: Было гэта праудзивое здарэнне у адной волосци Троцкаго павету.

Были тады па валасцёх бунты: прыехау аднаго разу да канцлярыи на успакаенне бунтоучыкоу сам прыстау. Як тут народ успакоиць, што тут парадзиць на каго усю беду мужыцкой, крыуды звярнуць? Ну, и звярнуу прыстау гэту беду на жыдоу.

„Гэты Христопрадауцы жыды вас зводзяць—казау прыстау мужыкам.

„Яны вас да бунту намауляюць; гэта яны вашые пьяуки, яны з вас кроу сасуць. У их руках уся таргоуля, усюды жыд перпш падойдзе, усюды яго верх..!“

Ведама, усюды жыд падойдзе, адазвауся мужык Саука, бо жыд грошы мае, начальству добра надсуне и, добра пан прыстау кажэш, усюды яго верх. А наш брат, мужык, так не парадзиць“.

Пачырвенеу на гэта прыстау, як бурак, але гаварыу далей, а мужыцких слоу якбы и ня слышау. Отож мели смеху вясковые людзинуж, брат Саука, кали цяу дык цяу, горэй як памордзи!...

*Працук Сомялиски.*

**З Игуменскаго павету Менск. губ.** У вёсцы Кухцичы Уздзянскае валасьци недауно так сабе пад вечар, як усе шли с поля, прыйшоу неяки хлапец, мусиць „сицилист“, пасклнкау усих мужыкоу, стау на прызьби и начау голасно гаварыць. Гаварыу аб усём патроху, казау аб нашэй цяжкай доли, а пад самы канец угаварывау, каб не плацили падаткоу и не давали рэкрутоу, а найважней, каб злучалися у адзин вялики крэсцянски саюз. А якскончыу казаць, пакинуу у вёсцы некие писульки и пашоу сабе. Праз два дни пачула палиция аб гэтым, у вёску прылящеу уратник са стражниками и нарабиу гвалту, каб аддали писульки. Суседни памешчык, кажуць, абецау за кожнаго такого „сицилиста, даваць па 25 рублёу таму хто зловиць и даставиць яму...

*Юрко....*

**З Ляндварова.** Сев.-Зап. Голос пиша, што граф Тышкевич стараецца дастаць дазваленне трымаць конную стражу у сваём дворы и Ляндварови.

Як мы чули, то и шмат других памешчыкоу купляюць винтоуки ды наймаюць стражникоу, каб бараниць свае дворы ад мужыкоу.

---

# З усих старон.

---

**Твер.** Мужыки пагарэльцы рубяць казённы лес. Высланы казаки. (Сев.—Зп. Гол.)
— У Бежыцким павеци пазакрываны усе земские школы, бо нима на эта грошэй

(Таварыш)

**З Кауказу.** Дзесяци генерал—губэрнатором, Наместнику и важнейшым чыноуникам пры канцылярнях генерал—губэрнатороу правицельство плоциць восемсот семдзесят чатыры тысячы сорок дзевяць рублёу. Апроч таго генерал-губэрнатором даюць кожны год на абстаноуку, на друкаванне патрэбных папероу и другие гэтакие рэчы семдзесяць тысяч рублёу. На разъезды и на другие патрэбы генерал—губэрнаторы бяруць кожны дзень ад пятнацаци да сотни тысячоу руб. (Таварыш)

**Финляндзки Сэнат** прыказау губэрнатором глядзець добра за войском, каб рэволюция не дайшла да яго (Строна)

**Новочэркаск** 22 сенцябра судзебная палата засудзила на поутара году *урадника* Турнова за *агитацию серэд салдатоу и казакоу.*

**Варшава.** Уже тры дни, як арыштованые за политычные справы у турме, па прозвишчу Павяк, галадаюць. Гэтай галадоукаю яны хочуць дабицца палепшэння жыцця у вастрози. Некаторые ужо аж млеюць з голаду.

(Kurjer Lit.).

**Масква.** У Маскве нехто застрэлиу на вулицы капитана трэцяго грэнадзерскаго Пэрноускаго полка Дзенкоускаго, каторы камандавау салдатами, як усьмирали збунтавaушыхся арыштованых за политычные справы у Бутырскої турме. Той, што стрэляу, уцёк.

**Пабедоносцэу,** быушы обэр-прокурор Свяцейшаго Сыноду, кажуць, усими силами стараецца не данусциць агульнаго выборнаго права. (Страна).

**Выборы** да Гасударственой Думы, як кажэ газэта „Страна“, маюць быць не раней як у январы.

# Гутарка аб гаспадарцы.

*(Прадауженне).*

Я казау у прошлым нумэры „Нашэй Долн“, што вучоные людзи даведалися аб тым, што каб добра жыць усякае расценне патрэбуе асобную меру кали, фосфору и азоту; адны расцення бяруць больш фосфору, другие больш кали, трэцие больш азоту. Але скуль гэтые матэрьялы бяруцца у зямли? А яны там бяруцца з каменчыкоу, тольки што з камня збожэ выссаць их ня можэ, а трэба каб каменчыки, з каторых земля уся зложэна (бо земля зложэна з камнёу, вяликих и малых; пясок—дык тыеж каменчыки тольки маленькие, глина—так само)—каб гэтые каменчыки разсыпалися, як бы гнили, и каб з их выпадали такие часци, з каторых браць яду расценне можэ.

Ад дажджу, ад марозу, ад карачыни вяликие и маленкие каменчыки трэскаюцца, разсыпаюцца и гэтакой дарогай у зямли збираецца расцицельная яда. Апроч таго яна там сабираецца тым, што добры гаспадар кладзе гной. У гнаю ёсць як раз многа фосфору, кали, а найбольш азоту: але гной мае ешчэ такую силу, што ён намагае каменчыкам з каторых, як я ужо казау, зямля зложэна разсыпацца и тым самым багациць зямлю. Тольки што нашы земли так ужо спустошэны, што на вэт часом гной не надта намагае, бо зямля так бедна, што расценне мае тольки гэту пишчу, што дастане з гною—а гэтаго мало. Вось и дайшли вучоные людзи да таго, што даведалися, што наша зямля бядней усяго у фосфор—а каб такой бядзе намоч прыдумали такие парашки, як их мужычки завуць, чы „искуственые удабрэння“ як завуць у гандлю, каторые маюць шмат адны—фосфору, другие—кали, трэци—азоту. Такие парашки, каторые маюць шмат фосфору, завуцца: супэрфосфат и томашлак; их два гатунки, усяки иначэй трэба унатрэбляць и на иншэй зямли—во и пагаворым аб их. Супэрфосфат мае фосфору шмат и патаму добра памагае на уражай тольки не на усих землях; найлепш ён аплачываецца на чорных землях, на глинистых, цяжэйшых; кали зямля надта ужо пееchaniста, тады ня трэба класци яго, бо усё роуна не паможэ; а кали зямля глинистая хоць и не надта, тады добра ён памагае над пшаницу, над жыта, над ячмень, над лён. Найлепш класци яго на пагноях, бо хоць у гнои и ёсць фосфар, але на ту меру, якую гной маець кали и азоту—фосфору там мала, а як падсыпеш супэрфосфату, уражай выпадзе багаты. Супэрфосфат трэба пильнаваць, каб ня быу у кавалках и дзеля гэтаго, троха купиушы, трымаць яго у сухим мейсцы, а кали ёсць ужо куски, трэба их разбиць на дробны парашок—найлепш их стаучы. Сыпаць яго трэба на дни 4—5 перад сяубой—роуна сеючы рукой па поли; трэба пильнаваць, каб ён скрось разсыпауся роуна, (бо иначэй, збожэ парасце купинами), а потым добра прыбаранаваць.

*Антось Асина.*

# Гдзе шчасце?

Гдзе шчасце? Хто кажэ, што у лепшай доли,
Хто у зямли, у хлеби, у народнай воли,
У здароуи, у славе, уселякой раскошы,
Хто кажэ, што найлепей, кали ёсци грошы,
А нихто не намысле и не зразумее
Што без навуки гэта вецер чыста звее
И што без навуки, без добраго чытання
Ничога з багацтва людзям не застання.

Трэба, каб нашы дзеци вучились малые
Каб не гадавались як птушки лясные,
Каб книжочку добру яны начытали,
Каб написаць умели, добра рахавали...
Як людзе уси будуць уму набирацца
Тады лягчэй на свеци будзе працавацца
Тады и багацтва, и счасця прыбудзе,
Шанаваць будуць близки и далёки людзе.

*З. К.*

Рэдактор-выдауца *Иван Тукеркес.*

## Ад Рэдакціи.

*Першы нумэр «Нашае Доли» па прыказу Виленскаго губэрнатора палиция конфискавала. Разышлася тольки палавина — пяць тысячоу, а пяць тысячоу палиция забрала, так што ничого схавацъ не удалося, и дзеля таго высылаць першы нумэр никому ня можем.*

*Просим у сих нашых чытацелёу писаць да нас, писаць аб усём, што дзеецца аб крыудаз сваих и радосьцях, хто як умее. Кали патрэбна будзе каму якая парада—пытайцеся—адкажэмо· Ведайце добра, што «Наша Доля»—газета вёсковых людзёу.*

*Прысылаючы грошы просим писаць, якое выданне «Нашае Доли» присылаць: чы друкаваное рускими литэрами, чы польскими.*

*Адресоваць грошы трэба канешне так: Вильня, Рэдакция «Нашае Доли», Ефстафію Сымоновичу. Хто хочэ палучаць газэту, нехай паспишае з прысылкаю грошэй.*

Рэдактор-выдауца **Иван Тукеркес.**



Типографія **«Артель Печатнаго Дѣла»**, Вильна, уг. Большой и Рудницкой ул., д. Залкинда.

Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).

№ 5. Вильня, 18 наября 1906 г.

II

Год I.

# НАША ДОЛЯ

першая беларуская газэта для весковаго и местоваго рабочаго народа.

**ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ** рускими и польскими литэрами.

Адрэс рэдакции и администрации: *Вильня, Катэдральны плац, № 4.*

**Тэлефон Рэдакции и Канторы № 591.**

**Цана**: з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год— **3 руб.**, на 6 месяцоу—**1 руб. 50 кап.**, на 3 мѣс.—**75 кап.**, на 1 мес.—**25 кап.** Без дастауки и пересылки: на 1 год—**2 р. 40 к.**, на 6 мес.—**1 р 20 к.**, на 3 мес.—**60 к.**, на 1 мес.—**20 к.** За границою: на **1** год—**4 р.**, на 6 мес.—**2 р.**, на 3 мес. **1 р.** Перамена адрэсу—**20 кап.**

АБЪЯУЛЕННЯ прыймаюцця на паследняй страницы па **20 кап.** за линейку пэтиту.

Рукапісы и карэспандэнции, прысыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамилею и адрэсомъ таго, хто же присылае. Адрэсъ толки для вадама Редакции.

## Усюду кроу.

Эх, маць- прырода, маць зямля,
Ты уся у крави патонеш скора!
У слезах гниець уж грудзь твая
Ты хата жалю и пазора.

Не пасьпеваець абсушиць
Пал солнца крови краснай лужы.
Не пасьпеваюць их пакрыць
Снегами вихры шумнай стужы.

Не пасьпеваюць их абмыць
Даждзей патоки праливные...
Кали же кроу прастануць лиць
И спихнуць усе бяды людзкія?

Ня уж, зямля, о маць—зямля,
Мир доугаждanны—плод запрэтный?
Ня уж ня устанець нам зара
Любви усеобщай бэззаветнай?

I. ИЗГУР.

## Да чытацёлеу.

Па прычынам, ад мяне не залежным, „Наша Доля“ была перастаушы выхадзиць. Шмат прыйшось цяжкаго на долю „Нашае Доли“. Шмат ужо перацярпела яна и ящэ хыба ня мала цярпець прыйдзецца. Она жеш, крыху аправиушись ад усих бед, што на мяне навалились, зноу пачынаю выдаваць „Нашую Долю“, зноу иду служыць беднаму, скрыуженнаму вёсковаму и местовому рабочему народу.

„Наша Доля“ як раней, так и цяпер будзе бараниць справы мужыцкае и усей працавитай беднаты.

Дзякую усем маим прыяцелям, што да гэтуль писали да „Нашае Доли“ и прашу не забываць и писаць зноу.

У Вильни цяпер выдаюць другую беларускую газэту, называецца яна „Наша Нива“.

Дзеля таго жэ „Наша Доля“ не выхадзила, шмат людей думали, же „Наша Нива“ выходзиць уместа „Нашае Доли“. Дык я заяуляю вельмипаважаемым чытацелям, же “Наша Доля“ николи ничога агульнаго ня мела и ня маець з Нашае Нивай“.

**Янук Тукеркес.**

# Аб выбарах у Гасударственую Думу.

Прэдвыбарную агитацию ужо пачали.

Найперш усих прыступили да пяе паны: у дзерэунях паны-памешчики, а у гарадах — фабрыканты, купцы ды усе багатые людзи.

Паспяшили яны так дзеля таго каб пасьпець правесьци у Думу сваего дэпутата, такого же пана, як и яны сами и каторый будзе бараниць не мужыцкае справы и усей працавитай беднаты, а паноу ды багатых людзей.

Бо и не дзивота. Такий пан-дэпутат... ну як жеш ен будзе бараниць мужицкае справы? Кали тое што патребна для мужыкоу—для паноу смерць.

Мужыкам патрэбна зямля и свабода. А кали даць мужыкам свабоду, дык з каго жешя паны будуць шкуру дзерци, як гэта было раней и цяпер?

Паны ды бюракраты баяцца, каб у новую цяперэшнюю Думу, як у першую, ня выбрали праудзивых прыяцелеу народа, громкій голас каторых пранёсся па усему гасударству...

Гэта быу голас прауды; ён не знау литосьци ни для правицельства, ни для паноу и бюракратау.

Вот гэтаких дэпутатау нам патрэба, каторые смела баранили бы мужыцкае справы и дабивались бы палепшення жыцця як мужыка-беларуса, так и усей працавитай беднаты, што жывець у нашым краю.

А таким для нас дэпутатам можець быць тольки такий, каторый выгадавауся у нашай бядзе и нядоли и на уласнай спине насиу паноу-бюракратоу з их парадками.

Адзин и глауный ворог як вёсковаго, так и местоваго беднаго рабочаго народу, гэта нядоля и цемната, процiу каторай павинна уся працавитая бедната ваеваць як адзин чэлавек, не разглядаючи якой ён веры и народнасьци: чы гэта праваслауный, чы католик, чы жыд, чы руский, чы паляк, чы литвин, чы латыш, чы немец, чы татар, чы армянин, чы калмык и шмат яшче других, каторые жывуць у цэлым нашем вяликам гасударстве. Усё гэта браты нашы па бядзе и нядоли.

Дык вот жеш и трымайцеся разам, не завадзице адзин з другим сварок, выкиньце зэ свайго серца тую ненависьць адзин да другога, каторую ваши вороги у вас засяваюць, каб вы у гэтай братаубийсцвеннай вайне патрацили сваи силы и не магли ваеваць з праудзивыми вашими ворогами и гныбицелями.

Ведайце добра, же пакуль вы усе разам — вы сила, а як разлучицеся ды пойдзеце кожный па сабе, дык тады вас перадушаць, як мух.

Вазьмице куль саломы и папрабуйце яго зламаць.

Якой бы челавек ня быу, а целаго куля ня зломиць, а як развязаць куль ды па горстачце—дык и малы дзяцюк ня тольки куль, але и цэлый воз саломы переламае. Такъ сама гэта и з вами.

Выбираючи свэих выбарных, глядзице на гэта заусим трэзва. Не падавайце сваих галасоу за тых, што будуць вас паиць гарэлкаю, чы будуць даваць грошы, каб тольки их выбраць. Яны вам будуць шмат чаго абецаць, але вы у тые абецанки ня верце, бо гэта воуки у авечых шкурках. И гарэлка их ня раз вам выльецца горкими слезами, а кожнюю капейку прыйдзецца рублём заплациць.

# Аб народовых демакратах, (Н.-Д.).

У цяперашние урэмя, как начынаюцца выбары у Гасударственую Думу, усякая партия хочець выставиць свайго кандыдата. Ведама, што у гэтау барбе лепшае места прынадляжиць тым партиям, каторые вядуць дружбу з правицельствам—партиям паноу и багачей. Яны имеюць праваззываць сваи прадвыбарныя зебрання, могуць смела агитаваць за сваими кандыдатами, не баючись таго, же их арыштуюць.

У насъ, у Вильни, паны, багачы и чыноунники пазлучались так: рускіе—у „саюз 17 акцября“, а паляки—у „народовых дэмакратау“ (н.-д. эндекау,) и у „канстытуцыонна-католическую партию“ (к.-к.).

З памеж них пакуль што шумиць партия эндэкау. Аб ней мы и хочэм цяпер пагаварыць.

Да партии „Н.-Д.“ належыць тольки не вяликая жменька мужыкоу ды работникоу, а больш паны. Тые рабочые и мужыки, што належаць да „Н.-Д“, папали сюды праз ашуканства. Ашукаць цёмнага и даверчывага чэлавека ня трудна таму, хто праз цэлый свой век гэтым тольки и жыу.

„Н.-Д.“ на славах дык абецаюць беднаму народу, што яны будуць для няго и тое и другое дабро рабиць, усюды будуць бараниць справы усяго беднага люду и бэз мала тры неба не наабецаюць.

На славах дык гэта выходзиць надтаж пенкне, але паглядзим, як яно выходзиць на дзеле?

Партия „Н.-Д.“ у Вильни надтаж не велика и ничым яще не паказала сябе. Але приглянемся да таго, што робиць гэта же самая партия у Царстве Польскам. Там яна сильная дзеля таго, што начала сваю работу у тое урэмя, кали чыноуничьс правицельства да таго цяснило усё польскае, што народ найперш усяго стараyся асвабадзиць сваю народовасьць з над уласьци гэтых душыцелеу народа. А дзеля таго, же „Н.-Д.“ дабивались таго же самаго, то и шмат людзей да яго прилучыуся, веручы на слово другим ихным абетницам.

Хто усеми силами стараюцца прашкодзить рабочым у вайне з фабрыкантами, мешаючы забастоукам и для гэтай цэли занималися навэт даносами?

Народовые дэмакраты.

Хто усеми силами цисьнець мужыка, высмактываючи з няго паследнюю каплю кравя, а кали мужик, выбиушысь з сил, взбунтуецца, вызываець на няго казакау?

Памешчики „Народовые-дамакраты“.

Хто стараецца на кожнем шагу пашкодзить жыдам, и разам з тым крычычь, же хочуць раунаправия для усех народовосьци?

„Народовые-дэмакраты“.

И яны ящэ маюць права называць сябе прияцелями народа,—смеюцьэ ящ пачкаць имя „дэмакратау“!

Польские рабочые и мужыки не выбирали дэпутатау у першую Думу и дзеля таго дэпутатами ад Царства Польскаго у Думе были тольки самые „народовые-дэмакраты“.

З якими дэпутатами у Думе яны, гэтые „прыяцели народа“, трымались? Чы з тыми, каторые дабивались для народа зямли и воли?

Не! Яны злучыли сваи галаса з тыми рускими дэпутатами, каторые были прациуны гэтаму, каторые ясна были врогами народа.

А кали усе дэпутаты паехали у Выбарг и написали ад сябе писульку да народа, то „народовые-дэмакраты“ прыехали у Выбарг тольки для таго, каб адказацца падписать гэтаую писульку.

Усем гэтым яны надтаж добра паказали народу, жэ ихные абецанки были тольки адно кламства и ашуканства.

Мы цверда верым, жэ нас яны ня зловяць у сидлы.

Мы павинны як адзин злучыцца и з памеж сябе выбраць дэпутата, а не з памеж паноу, наших вечных крыудзицели и грабицелей.

*Маланка.*

## Кандыдаты ад Вильни.

Баялась бедната, што не удасьцца ей у Вильни выставиць свайго кандыдата.

Аж раптам кандыдаты знайшлись, и не адзин, а целых два—ды ящэ якие!

Усяму Вильню вядомые и усеми у Вильни паважаемые.

Адзин—ксендз, усем знамый сваими браталюбивыми казаннями, а другий—абшчесьцвенный дзеяцель, праслaвиушийся любоую да ближних

Адзин — ксендз Станислау Мацеевич, другий—пан Юзеп Монтвилл.

Уздахнула свабодна бедната.

И не дзивота. Чаго-чаго яна не чекаець ад гэтых дэпутатау ад горада Вильни!

И бедный работник з сагнуушейся ад працы спинай верыць, што уздахнець ён свабодна, кали паслышыць, як виленские дэпутаты будуць трэбоваць, каб скруцили яго рабочый дзень.

Яны, канешне, патребуюць: дайце рабочым восем часоу для працы, восем—для сну и восем свабодных.

И мужык будзе спаць спакойна, а дэпутат пахлапочець аб ним и патребуець у Думе, каб мужыкам дали дарам зямли, за каторую, па праудзе гаворучи, ужо у двайне грошы заплацили.

И жыд-бедняк абрадуецца: дэпутат будзець дамагацца, каб и жыд быу таким же гражданинам як усе у тым краю, у каторым жывець, и каб меу тые жэ самые права, што руский, паляк, литвин, беларус и другие.

Абыдва гэтые кандыдаты абецуюць бараниць справы усей працавитой беднаты.

Як же не паверыць таким вельмипаважаемым людзям?

А мы, хаць можэ гэта и вяликий грэх - ня верым им...

Ня верым им дзеля таго, што справы паноу и ксяндзоу ня тые, што нашы. Ня верым мы, каб паук кады нябудзь пажалеу муху.

Но можэ быць и гэтый пан, и гэтый ксендз такие добрые людзи, што яны забудуць аб сваей карысьци и выгадах, посвенцяць сябя на службу працавитай беднаце?

Можэ яны ужо гэта паказали сваими учынками?

Паглядзим...

Ксендз Мацеевич любиць гаварыць шмат и усё об адным и тым же. Усе яго казання з амбоны скяpraваны працiу цыцылистых, ученикоу ды жыдоу.

Ксендз Мацеевич нападаець на тых, хто хочечь добра народу и каго абецаець бараниць у Думе.

Другий кандыдат, пан Монтвилл, пасвенцаець сябе на службу народу: ён навэт зрабиу саюз работникау „стоважышене С-го Юзэфа", ад катораго уцякае кожны пачцивы работник...

Пан Монтвилл маець маёнтки. Спытайце яго саседзей-мужыкоу, ды работникоу; чы многа яны видзели добраго ад няго?

У гэтых двух кандыдатау ёсць шмат агульнаго: у барбе з людьми, каторые мысляць иначэй як яны, як адзин, так другий гатовы прыбегнуць да самых брудных способоу и штук.

Два годы таму назадъ у Вильню прыехау польски писацель пан Немаеуски и чытау тут лекции. Гэтые лекции не спадалися ксяндзу Мацеевичу. От жэ ксёндз Мацеевич сказау два слова и п. Немаеускага палиция выслала из Вильня. А трэба сказаць, жэ п. Немаеуски челавек разумны и сваими лекциями мог шмат карысьци прынясьци беднаму прыгныбённаму народу.

У Виленскам Зямельнам Банку, у каторым глауным заправилай п. Монтвилл и з катораrа ён цягие шмат грошы, сталася бяда.

Панам гаспадарам банка паказалась, што рызумы служащчых скяраваны ня у тую сторану у каторую бы хацелась панам гаспадарам...

И от жэ адзин з гаспадарау гэтага банка пан Гуща, не знайшоу ничаго лепшага як пайсьци самому и пэратрасьци усе сталы сваих служащих, чы нема там гдзе праклямации?

От жэ якие кандыдаты у Думу, каторых нам паказывюць паны. От якие меюць быць нашы бараницели.

Не, паны, не ашукаеце нас! Мы ведаем, жэ и бяз вас ёсць ящэ людзи на свеце... Есць ящэ и праудзивые прыяцели нашае справы. Мы ведаем, што за их працу для народнае справы и родзины, правицельства плациць им турмами и кулями, и змушае их хавацца ад Божага света як злодзеяу и разбойникау.

От гэтым людзям мы верым.

Мы не знайдзем з намеж них ни знатных, ни багатых, але пачцивых и справядливых.

И з намеж гэтых людзей мы выбярэм сабе дэпутата.

**Адам.**

## Куды идуць мужыцкие грошы и як дэстауляюць галодным мужыкам хлеб.

У за границы жывець адзин чэлавек, каторага завуць **Лидваль**,—а у нас, у рускам гасударстве, жывець адзин генэрал, каторага завуць **Гурко**.

Гэтый самый Лидваль занимауся тым, што рабиу у нас для панау клюбы, гдзе паны ели, пили, играли у карты и гуляли з дзеуками.

Кали нашы мужыки пачали пухнуць з голаду, кали хлеб пякли з коры и мякины, руский генэрал прасиу Лидваля, чы ня

можэ ён даць раду. як гэтому гору памагчи и мужыкоу накормиць.

Лидваль, як чэлавек уж надта добрый, згадзиуся зрабиць гэту ласку и взяуся настауляць хлеб для бедных мужыкоу.

А трэба сказаць, **жэ гетый самый Лидваль хлебам николи не таргавау** и разумеецэ ён у хлебе столькн, скольки доктар у сене.

**Отъ жэш тады генэрал дау Лидвалю васемсот тысячау рублеу (800,000), каб ён. заняуся ратаванчем галодчых мужыкоу.**

Вот же цешились наши мужычки, же хыба больш галадаць не прыйдзецца, бо для гэтай справы аж з заграницы генэрал Гурко чэлавека выписау.

А хлеба ужо надтаж патрэба!

Узяу гэты грошы Лидваль и зхавау.

А гдзе жэ хлеб? --запытаецесь вы?

— А хлеба нема!

— Як то нема? А за штое же ён грошы узяу?

— А чамуж бы яму и не взяць, кали даюць? –Яму наш генэрал дау!

Гетый генэрал, здаецца, мае права робиць з нами и нашими грашми, што захочець.

А спытаць бы так: адкуль геты васемсот тысячау рублеу (800,000) узялись?

**Чы не прышлось гэтаму самому мужыку, што цяперь галадаець, астатнюю кашулю прадаць на тые тысячы, што пэн генэрал заграничным куццам раздае?**

Мужык ня еу, ня спау, тольки бы атдаць павиннасць зборщыку

Такая ужо мужыцкая нядоля!!!

А выходзиць так, што мужыцкие крававые грошы аддаюцца заграничным жуликам, каторым усё ровна, чы галадаець мужык, чы не.

**Корч.**

---

# Усяго па троху.

Надтаж многа хлапот у нашаго беднаго правицельства

У прошлам гаду яно ваевало з рэвалюціанерами, каторые были процпуны выбарам у Думу, а цяпер яно аж зэ скуры вылезае ваюючи з тыми рэвалюціанерами, каторые хочуць выбираць у Думу.

Да 1 акцябра 1906 года дэпартамэнт палиции бедавау аб тым, же рэвалюціанэры агитуюць каб „не даваць рэкрутау“.

Цяпер рэвалюціанеры пяраменили сваю тактыку и гэтым прымусили дэпартамэнт палиции, сакретна прадписываць, каб як можна стражэй приглядали за тыми рэвалюціанерами, каторые стараюцца, каб у армию з памеж навабранцеу прайшло, як можна больш сваих людзей.

И правицельства усё ваюець ды ваюець... И з тым каб „не даваць рэкрутау“ ваюець, и з тым каб „даваць рэкрутау“ ваюець...

Як вявюрка у калясе.

(Смоленск. Вѣсти.).

---

— **Скольки стоюць Рускіе генэралы.**—У 1905 году было на службе 1773 генэрала, акрамя тых, каторые у адстаунцэ. Гэта выходзиць 1 генэрал на 565 салдатау.

Каб утрымаць 33 поуных генэралау у год стоиць 1 мильён 350 тысячау рублёу, —на утрыманне 357 генэралау - лейтэнантау идзе 2 мильёна 124 тысячы руб. и на 1006 генералау-маёрау 3 з палавиною мильёнау руб. Агулам для усих генэралау пайшло 7 мильёнау рублёу, не рахуючи наград, на каторые выходзяць у год дзесятки и сотни тысячоу рублёу. Затым на уселякіе награды и падмоги для генэралау и старых афицероу выдаецца у год больш як 4 мильёна рублёу. На пенсиёны для адстауных генэралау идзе больш як 11 мильёнау рублей.

На утрыманне 950 тысячнай армии салдатау выходзиць у год 45 мильёнау руб., а утрыманне тольки адных генэралау каштуе близка палавину гэтых грошэй.

Не трэба забываць и тое, же большая часць гэтых генэралау памешчики, з памеж каторыхъ, як напрымер, граф Игнатьеу, Варанцоу-Дашкоу меюць дзесятки и сотни тысячау дзесяцин зямли.

Есьць з памеж них ящэ и такія, што маюць фабрыки и заводы. (Echo).

---

— **Заяуленне казакау.**—Дэпутат ад города Растова-на-Дану А. П. Хартахай палучыу ад 10-ай мабилизованай сотни, што цяпер займаець караулы, ды служыць па станциям жалѣзных дорог, заяуленне у каторым з памеж других ось як гаворацъ:

„Бацьки ды браты, каторые выбраны ад усего рускаго народа, каторые прызва-

ны самым Царомъ, нашым бацюшкаю! Вы павинны зрабиць тое, чаго дамагаецца наш руский народ—даць мужыкам зямли.

Паны-выбарщыки ад усяго света Хрыстова, просим вас. Мы казаки, пакинули сваих старыкоу бацьку и матку, жон и малютких дзяцей и разруйнавалась наша уся гаспадарка, а да таго ящэ Гасподзь Богъ не урадзиу нам грэшным хлеба, так, што наша сямья памираець з голаду. Паны-выбарщыки праваславные, просяць вас мабилизованые казаки, каторые нясуць ня слыханую службу. Мы ничаго ня можэм зрабиць з нашыми прамыми начальниками, яны нас наказываюць, яны нас мучаюць, кажуць, жэ будуць казниць на смерць, жэ зашлюць у катаржные работы и атправлюць у полк на службу з першай калейкай. Усеми гэтыми угрозами яны нас страшаць, але нам усеж таки шкода трациць и убиваць адзин другога. Паны-выбарщыки, просим мы вас, пахлапачыце аб нашых бацьках, каторые нясуць цяжолую работу, яны нам пишуць, што ня могуць нясци гэту работу. Паночки, адпавядайце у газэтах".

(Страна).

# З Беларуси и Литвы.

— **З Свенцянскаго павету, Виленск. губ.** — У вёсцы Зулово, Михайлоускай валасьци, крэсцьянинъ Флорьян Жеймо забиу сваю матку, 65-летнюю старушку. Прычына датуль ня выяснена

**Минск.** — У маёнтку гр. Тышкевича згарели 2 водзяные млыны. Млыны хтосьци падпалиу. Шкоды наличаюць на 17 тысяч рублёу.

— **Режыца,** — На сваих прадвыбарных зебраннях польские и руские памешчыки ни як не магли згаварыцца. Руские выбрали сабе камитэт и пастанавили адлучыцца ад палякоу. Kur. Lit.)

— **Вицебск.** — 7 и 8 наябра прибыушый у Вицебск судзебны следавацель па асобна важным справам п. Белеуцоу знимау дапрос з быушых членоу Гасударственнай Думы п.п. А. Волковича и Г. Брука у справе аб выбаргскам вазванню. Прэдъяулены были ось якія абвинення: 1) за тое, што яны падписали выбаргскае вазванне и 2) жэ яго шырыли памеж людзей. Да першаго абвинення яны прызнались, а да утарога - не хацели ничога яму гавариць и заявили, же скажуць тольки на судзе. (Сѣв.-Зап. Гол.).

— **М. Белынкчи, Могил. губ.** — Вясной у гэтам гаду католики па канцам местэчка, як гэта дауней вадзилась, каля самых хат паставили чатырэ крэсты

У ближайшым касцеле у местечку Свециловичах не было ксендза и дзеля таго крэсты гэтые стаяли да восени не пасвенцоными. Здавалось бы гэтые крэсты никому ня шкодзили. А кали пабывау у Белыничах магилеуский архярэй, дык пасля таго 8 сенцябра, мейсцовый станавый прыстау з урадником и стражниками пачали прыдзирацца да пастауленых крэстоу. Шмат разоу ужо становый зазывау да сябе мейсцовых католикоу, гразиу им и штрафам, и высылкаю, и яще падобными страхами и трэбавау ад них, каб дали падписку, же знимуць крэсты.

Затым станавый абьявиу, же па распараженню магилеускаго исправуника, яны маюць тольки тры дни сроку. Тады католики паслали хадакоу да ксяндза у Свециловичи з просьбаю, каб освяциу тые нешчастные крэсты. На другий дзень 4 акцябра приехау ксёндз на асьвяценне. Урадник зэ стражниками и цяпер ня дали спакою ни ксяндзу, ни людям. Станавый пасля таго страшыу и катаргай, и агромными штрафами, а раз навэт схвациу сякеру и крычау, же кали каталики ня знимуць крэсты, то ён сам их зрубиць. Што будзе у перадзи? Што новаго палиция выдумаець? Выдумливаець яна ужо стольки, сколькп хочэць. У пратаколе навэт и то памясьцили ня правильные и ня праудзивые паказанне стражникау, же як бы ксендз сказау урагнику „вон сабаки", а нарсд як бы падхвациу: „царские сабаки". Кламства, да катораго прыбегаюць праваслаунае духавенства и вернаслужащая яму палиция, заусем ужо вайшло у моду.

(Страна).

— **Минская губ.** — У павятовам зъезде землеуладзельцеу минскаго павету маюць права голасу 119 людзей, драбнейшых землеуладельцеу, каторые будуць выбираць на

прадвыбарных зъездах — 1810, и паноу и ксяндзоу — 50. Па санацким разъясненням, близка 1200 драбнейшым зямлеуладзельцам права голасу адняли.

(Рѣчь).

— **Вильня**. — Рускую газэту „Свободное Слово“ за гэтый месяц канфискавали дзевяць разоу. Канфискавали яе и тагды, кагды у ней друкавали, и тагды, кагды выпусьцили газэту саусим бэз друку, парожнюю — были тольки загалоуки, ды подписи, а у сяродку парожняя белая бумага.

— У гэтым тыдню канфискавали литоускую газэту „Naujoji Gadyne“.

— Рэдактора польскай газэты „Echo“ Уладзимира Стойкова и рэдактора-выдауцу „Нашае Доли“ Ивана Тукеркеса прыцягаюць да суда па 1 и 2 пунктам 129 ст. уст. уг. суд. и па пункту 6 отд. 8 урэмен. прав аб паурем. выданнях, за выдрукаванне артыкулау у сваих газэтах.

— З Виленскай турмы уцякли празъ печку 6 арыштантау. З памеж них 4 **„палитычных праступникау“**

*
* *

Вер — над нашым цемным краем
Солнышка узайдзе,
И лучом сваим асвециць,
Мужика у бядзе.

Ночь ня вечна будзе длицца.
Пабледнеець цень,
И займецца над зямлёю
Ясный, цихий дзень.

Гнет няволи векавечнай
З душ людзких спадзець
И свабодна, абнаулённа
Человек уздахнець.

*Геля Нядольны.*

# Ад Редакции.

Першы, трэци и чацьверты нумэры „Нашае Доли“ палиция канфискавала, так што ничога схаваць не удалося, и дзеля таго высылаць этых нумероу никаму ня можэм.

Просим усих нашых чытацелёу писаць аб усем, што дзеецца, аб крыудах сваих и радоьсцях, хто як умее.

Кали патрэбна будзе каму якая парада — пытайце — адкажемо.

Ведайце добра, што „Наша Доля“ — газэта вёсковых людзёу

Як раней, так и цяпер „Наша Доля“ будзе бараниць справы вёсковаго и местоваго рабочаго народу и усей працавитай беднаты. Прысылаючы грошы просимъ цисаць, якое выданне „Нашае Доли“ прысылаць: чы друкаваное рускими литэрами, чы польскими.

Хто хочэ получаць газэту, нехай паспешае з прысылкою грошэй.

Выдауца **Янук Тукеркес**.
За рэдактора **Адам Гедвилло**

Odbijano w drukarni M. Romma.

ГОД I. **Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).**

**№ 6.** **НАША ДОЛЯ** ВИЛЬНЯ, **1 дзекабра 1906 г.**

**першая беларуская газета для вясковаго и местоваго рабочаго народа.**

**выходзиць раз у тыдзень русскими и польскими литэрами**

Адрэс редакции и администрации: **ВИЛЬНЯ, КАТЭДРАЛЬНЫ ПЛАЦЪ № 4.**

Тэлефон Рэдакции и Канторы № 591.

**Цана:** з пересылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—**3 руб**, на 6 месяцоу—**1 руб. 50 кап.**, на 3 мѣс.—**75 кап.**, на 1 мес.—**25 кап.** Без дастауки и пересылки: на 1 мес.—**2 р. 40 к.**, на 6 мес.—**1 р. 20 к.**, на 3 мес.—**60 к.**, на 1 мес.—**20 к.** За границою: на **1** год—**4 р.**, на 6 мес.—**2 р.**, на 3 мес.—**1 р.** Перамена адрэсу—**20 кап.**

АБЪЯУЛЕННЯ прыймаюцца на паследняй страницы па **20 кап.** за линейку пэтиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию мусяць быць чытэльна написаны з фамилею и адрэсомъ таго, хто их присылае. Адрэсъ толки для вадама Редакции.

# ГОЛАД.

Кали вайна у краю кипела
И кроу лилася, як вада,—
З крави зямля пачырвенела
И з кожным днем расла бяда...

Кали звяроу — людзей таукали
На мирных жыцелеу каб биць...
Кали дзяцей не шкадавали
У вачах прад матками рубиць...

Тагды ускипела неба гневам
И голад страшны зтуль ступиу
И скрыдлы над зямли пасевам
Як цар-арол ён расхилиу.

И пахмурнели у смутку нивы,
И пажауцела уся зямля,
Маркотны, смутны, моучаливы
Прад смерцяй были усе паля.

Ламалась рож, каласы пали,
И сонцэ огненае жгло,
И росы ниу не асвяжали,
Зачахла усе и умярло.

Салому уместа хлеба ели
(Бо скот дауно ужо падох)
И пухли людзи и чарнели,
Ядучы зельска, кору, мох...

Дзярэуни хутка вымирали,
Хвароба йшла, нибы пажар,
И крыки неба разрывали...
Но бэз литосци голад-цар.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тагды вайна у краю кипела
И кроу лилася як вода...
З крави зямля пачырвенела
И з кожным днем расла бяда...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тагды у палацах што? — гуляли,
Начами ели ды пили,
И Бога — голад выхваляли
Што крыки бедных замярли.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***И. Изгур.***

# ЯКАЯ БУДЗЕ ДУМА?

Ня доуга свецила сонца свабоды над абяздоляным руским гасударствам.

Згусцилися чорныя хмары. Завалаклося ими неба а з гразныхъ норау выпаузли, баючыся свету, брыдкия гады.

Цяпер яны горда падняли голавы. Цяпер яны пачули свою силу, кали жменя гныбицялёу, маючы камандзера у Сталыпини, заливаець кроую усе агромна гасударства, хачучы патапиць у крави вялики асвабадзицяльны рух. З радасьцяю прыслухиваюцца яны да залпау, ад катерых гинуць сотни сыноу свабоды, з уцехаю даведаваюцца аб частых смяртэльных прыгаварах ваенна-палявых судоу—гэтай насмешки над правасудзем.

Имя успомняных выжай гадау — ёсць: „исцина рускiе людзи“. Гэта тые самые людзи, што у минуушу восень спрауляли морды на усем рускам гасударстви, што абхляпали кроую вулицы Беластока и Седлеца.

Их ёсьцяка мало, но яны сильные. Моцные яны тым, што за ими стаиць правительства з многими тысячами штыкоу.

У заузятасци сваём яны (гады гэтыя) грозяць нават сваим-жэ прыяцелям, бюракратам, усялякими страхами-кали тольки жыдам будуць даны роуные права з другими. Яны самым грубым спосабам вымагаюць ад прадставицяляу министэрства каб было робляна паихняму и министэрства гэта, министэрства Сталыпина, боязливое, слухаець их таму, што видзиць у их падпору для падгниушаго самауласцьця.

Цяпер усе старання гэтых людзей скерованы, каб якколььвек у Гасударствяну Думу выбраць сваих кандыдатау.

Правицельства надта памагаець им у гэтум, каб у Думу пралезла як найбольш „чорнай сотни“ дзеля гэтаго яно адабрало права выбарау бэззямельным мужыкам и многим, многим тысячам рабочаго люду словам—тым хто боляй усих маець права быць нязадавольненым сягоднишним парадкам яно (правицяльство) думаець, што таким спосабам удасцца выбраць у Думу многа, кали и не чорнасоценнцау, то напэуна ужо людзей ня смѣлых, людзей — каторых можна збароць.

Але чы часами не памылицца яно? Таж апрыч работникау ёсць ня мала и других незадаволяных. Бо и дапрауды—хто жэ пазволиць як ня „исцинна руские людзи“ гэтыя—забуйства граждан, што у нас штось дзень адбываюцца называемые „казнями“. Камуж у спадоби бязмерна зладзейства бюракратау - примерам—кража генер. Гурко.

Справы граждан усяго рускаго гасударства, за выключенем чиноуникау, багачей и „чорнай сотни“—цяпер адныя. Цяпер усе хочуць тольки аднаго — дабицца настаяшчай гражданскай свабоды, настаяшчаго парлямэнту. Каб жэ гэтаго дабицца треба исци рука у руку — паробкави з гаспадаром, рабочаму з дробным уладзельцам и майстрам. И тольки тагды, як будзець вымажана ад правицяльства праудзива палитычна свабада тольки тагды рабочы народ магчыме исци своеи асобнай дарогай.

Мы верым цвёрда, што дробные земляуладзельцы кали и ня будуць падаваць галасоу за кандыдатау рабочых, то усеж таки вибяруць людзей, што ганяцьциперашняе правицяльства.

Не! надзея „чорнай сотни“ быць бы браными да Думы—ня велика.

Граждане Рускаго Гасударства з гневам адсунуцца ад шайки разбойникау, памагаюшчых катам и казнакрадам. Не памогуць и штыки, што их падтрымывали да гэтуль у пагромах и мордах людзей—цепер яны будуць для их бэз карысци.

Штыками ня можна прымусиць чалавека думаць иначай як ён думае—и. паутараю яшчэ раз, и штыки нават не памогуць „чорнай сотни“ быць выбраными депутатами у Гасударствяну Думу.

---

# ГОЛАД.

Страшна робицца пры гэтым слови. Валасы паднимаюцца на галаве и мароз перабегаець на скуры.

Галадаюць дзесятки и сотни вёсак, галадаюць цэлые паветы и нават цэлые губэрни.

У татарскай весцы Тетюшскаго павету Казанскай губ., пишуць газэты, бацьки прадавали сваих дочак гэтак ад 12 да 17 гадау—прадавали их на распусту за 100-

150 рублоу — кожну. Прычына такаго страшнаго праступку быу голад, — голад, ад катораго гинули цяжкаю, страшнаю смерцяй.

Таки голад, як пишуць газэты, ящэ николи ня быу у Расеи. Падумайце тольки: **з аугуста месяца гэтаго году мужыки у ва многих мяецох ядуць чэраз дзень, други а то й трэци.**

Каб меньш хацелася есци, няшчасные кладуцца и ня рухаюцца, бо ведама што як чалавек спакойна ляжыць — дык меньш есци хочэ. Каб як выкармиць скацину здзирали стрэхи з хатау — але ничога не памагло — паздыхала.

Уместа хлеба людзи мусяць есци мякину, жолудзи, церту кару, листы, мох.

Палаження галодных страшна. Ляжаць яны покатам, плачуць и стогнуць; — паглядзець на их — скура ды косци. Потым начынаюць пухнуць. Усе цела разраниваецца и урэшци чалавек гине у найстрашнейшым кананю. Пухнуць сотни и тысячы красцьян. А тут яшчэ надходзиць зима. Холад и голад злучацца, каб разам губиць нашых братоу. А помашчы нескуль ждаць. Бюракрацiя напишэць цыркуляр и думаець што ужо заткнула галодны рот. А каль и захоча памагчы памираюшчым ад голаду людзям, та паручае гэту справу такому Гурко, каторы, напрыклад, аддау якомусць заграничнаму махляру Лидвалю (1.300.000) мильен трыста тысячоу рублоу — а гэты схавау их сабе у кишэнь.

Церпяшчаго голад на 1 руб. 50 к. можна пракармиць цэлы месяцъ (пакуль прыдуць лепшые часы) дык на 1300000 р. на гэтыя грошы сабраныя ад мужыкоу таким парадкам можна былоб пракармиць 850.000 васямсот пядзесят тысячоу чалавек у месяць! А гдзе цяпер грошы тыя? — гдзе крывава мужыцкая праца? Каб аддаць падатки мужыки прадавали быдла, палатно — што тольки мели — каб тольки напхаць горла казне, а самы цяпер пухнуць з голаду.

Вот часы настали!... А казна гэта, замест памачы няшчасным высылаець грошы за границу — Лидвалям и таким парадкам даець яшчэ большы простор голоду, хвароби и смерци.

*Чарвоны.*

# ПАПРАУКА.

У № 5 „Нашае Доли" у артыкуле моим „Дэпутаты ад Вильни" уместа „**п. Гуща**" трэба чытаць „п. Коньча". Вельми перэпрошаю п. Гущу за маю памылку.

*Адам.*

# Як Виленские рабочые валвали з злучыушымися капиталистами.

Кожны человек па асобни — слабы и яго усяки можэ крыудзиць. Кали людзи злучаны — та яны сильные. „У громадзи сила" гэта усе знаюць. Асобна кожны рабочы не палепшыць сваяе доли, а кали усе рабочые разам возмуцца, та дабьюцца таго, што будуць меньш працаваць, а больш зарабляць, свабодным часам будуць магли пачытаць ксёнжку, даведацца, што робицца на свеци — словам будуць жыци як чалавек, а не як скацина.

Усюды работники добра гэта знаюць и пазлучалися у таварыства и суполки (саюзы).

Усе шауцы злучаюцца у адзин саюз, усе крауцы у други, усе сталяры у трэци и т. д. Так сама и у Вильни близка таго увесь працавиты народ злучыуся у свао саюзы. Каб дабицца лепшых варункоу жыцця работники маюць найлепшую помач для сабе: гэта забастаука.

Зробяць забастауку, ня пойдуць рабиць, и запатрабуюць ад сваих паноу большай платы, а меньш работы. Другие рабочые на их месца ня пойдуць бо усе яны жывуць у згодзи, заступаюцца одны за других. Калиж знайдуцца такiе, што згодзяцца пайсци на месца забастоушчыкау, та их пражануць. Як забастоука, — дык фабрыки чы заводы стаяць гаспадары их не зарабляюць (а грошы страх як любяць) та и згодзяцца: няхай работники зарабляюць, и мы, хаця и меньш, але усеж будзямо грошы складаць.

Дабьюцца рабочые лепшых варункау, пройдзе неяки час и зноу зробяць забастоуку, пакуль не дабьюцца такого палажения, якое для их ёсць канешым. У

гэтай барбе правицельства памагаець багатым, садзяць работникау „падстрекацелей“ у турмы. Але рабочые не баяцца гэтаго — и з кожным годам, нават з кожным месяцам, кали яны тольки змовиушися, палаженне ихня палепшаецца.

Бачучы гэта фабриканты, купцы, заводчыки, адным словам капиталисты пашли да галавы па розум. Будзямо, кажуць, и мы злучацца, — тагды не пабаимся забастовак. Так и зрабили.

Кали у адной фабрыцы канвертау рабочые зрабили забастауку, дык усе фабрыканты конвертау злучылися у суполку, — прагнали рабочых, думаючы сабе: як выгаладзяцца, дык прыдуць и будуц рабиць за сколька мы захочам.

У фабриканта кяшэнь набита туга—галаду яму баяцца не трэба... чы няпраудa?...

Такая суполка фабрыкантау завецца **локаут**.

Як началася у Вильни забастоука панчошниц—усе фабрыканты панчохау абъявили локаут. А што рабили рабочые? Чы спалохалися мо? Паляцели на работу? Отаж не! Яны сабе бастaвали и даляй. Мы ужо успамянули, што рабочы люд жывець з сабою дружна — адзин за усих и усе за аднаго. И цяпер, кали 1500 и больш снавали па Вильню бэз работы — другие памагли им.

Пяраплётчыки, цыгарники, булачники, загатоушчыки, пальчатники, шауцы, крауцы, слясары, сталяры и другие—усе злучанные у саюзы, збиралися, радзилися як памагчы забастоушчыкам. На ззабраньнях гэтых пастанавили, каб кожны рабочы што месяц аддавау на забастоушчыкау свой заробак з 2 днёу. Зрабилася камисия для вайны з гэтыми **локаутами**.

Збиралися грошы, нашлася каса, у каторай цяраз 2 месяцы набралася 1735 руб. 76 к. Гэтыя грошы выдавалися па троху забастоушчыкам, каб яны не галадали. Забастоука цягнулася 11 нядзель. Багачы што гэтаму николи канца ня будзе и што яны могуць саусим згалець, капиталисты начали пяраrаворы, а патым згадзилися даць, чаго рабочые хацели, нават япчэ заплацили и за час забастоуки.

Таким парадкам локаут быу зломаны и працавиты люд цешыусе з выгранай. А выграна гэта была ня малая. Кабы выграли капиталисты дык и другіе багачы рабилиб такие **локауты** — а цяпер усе яны пазнали, што ничога ня зробяць проциу злучыушагося люду—сокам и кроую каторага нибы пияуки — усе яны жывуць. Гэты выпадак вилянских локаутау лишни раз паказвае тольки, што

у злученю сила!

*Янук з за печки.*

# ПАН и МУЖЫК.

(З Крашэускаго).

Иду раз сабе пяхатою.
На вулицы-ж вельми балота;
Аж чую, хтосць едзець за мною...
Атож з панами бядота!..
Зиркнуу назад, дый у ноги,
Бо пан мой—мог мине здратавaць;
У тым чую: „пачэкай, мой дроги!“
Каль кличэ та трэба чакаць.
И шапку зняушы я стау...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дождж лье, я жду, аж от
Ляциць и — „як ся маеш?“ сказау,
И згинуу, як вихар, як чорт.
И тольки балотам усяго абхлапау.
З панами такая та справа
Што каль ня задратуе,
(Падчас яму и гэта забава!)
Калу-ж—никали не пашкадуе!

Будзицель.

# Ахфяры.

Людзи бунтуюцца... бунтуецца многа... тысячи, дзесятки тысячоу, а гляньце скольких судзяць?!.. Прад несправядливым людзким судом сядзяць на лауцы двое, трое... гэта значыць: яны винаваты, бо яны неякосць забадзялися памеж тых многих што бунтуюцца... Чы виноуные, чы не — яны мушуць адвечиць — часами и надта цяжка... Хтосьци сказау:

„Прыстава падстрелили“ цап бунтаушчыка и узяли: як ен асмелиуся галасно гэтакъ сказаць?!..

Други пашкадавау прияцеселёу народу и — спаткауся разам з першым перад судом...

Чи гэта вялкия бунтаущыки, праступники?

Не—гэта—бедныя, няшчасныя ахфяры....

З Сыбиры варочаушыйся да хаты полк, дачууся, што яго хочуць пасладь на усмиренне.

Салдаты загаварыли... загаварыли намеж сабою аб тым—што во як дзякуюць им — за кроу их пралиту на вайне... — пасылаюць их „усмирацъ", зноу биць, але не ворогоу, а родныхъ братоу...

И салдаты загаварыли...—не хацели исци на гэтаки страшны грэхъ...

Полк акружили —палкоуник паказау на трох чатырох якабы бунтаущыкоу— и их арэштавали.

И от яны ужо пред судом... — хаця и сами ня ведаюць як и за што сюды папали. Сядзяць...

А их судзиць страшны — няспрявядливы суд... и асудзиць—можа на смерць...

А людзи маучаць — хаця над галавами усих нясецца вялики балючы стон...

Ахфяры, ахфяры!...

*С. В.*

# АЙЧЫЗНА У ЦЬМЕ.

Апусцилася глухая
Ноч над роднай стараной.
И зноу ливни не сцихая
Льюцца цёнгля над зямлей.

Цёмны, велькия зноу хмары
Усё неба заняли...
Нудны, восени дни шары
Замест лета нам прыйшли.

Плачець вецер над прасторам
У барах и на палях
Плачець, стогнець слезным хорам
Жыцце у муках и болях.

Нянагода гэта, слякаць
Жыцця стоны глушаць усе
И з натураю паплякаць
Нибы страшна смерць идзе.

И бушуець громка бура...
У нашай беднай старане.
Хмары звислися панура...
Циснуць грудзь радной зямле.

*И. Изгур.*

# З Беларуси и Литвы.

**Вильня.** 22 наябра у Виленскай Судзебнай Палаце разглядали справу рэдактара польскай газэты „Echo", Уладзимира Стойкава за выдрукаванне у нумэру 11 гэтай газэты артыкула „што трэба и чэго ня трэба чытаць". Прэдседау тайны саветник санатар Карнович. Абвиняу таварышч пракурора палаты Замыслоуски. Бараниу справу прысяжны паверены Т. Врублеуски.—Палата пастанавила: газэту „Echo" замкнуць на усягды, а рэдактора пасадиць у крэпасць на 3 месяцы.

У прошлым тыдню зноу канфискавали № 5 „Нашае Доли."

**Гродня.** Списки избирацелёу ужо зроблены. З памеж избирацелёу больш жыдоу. Глауны рэй вядзе прашлагодни камитэт. Кандыдата у Гасударственую Думу ужо выставили.

**Вицебск.** У гэтым часи, як нам вядома, кончылися прадвыбарные зъѣзды мужыкоу у Вицебскай губэрни. З зэтых зъѣздау видаць, што яны ужо добра зарганизаваны и ведаюць як и што рабиць кали прыдуць выбары, каб выбраць дэпутата не ад правицельства а ад мужыкоу.

**Гарадэк** (Вицебскай губ.). У гэтым гаду прадвыбарная работа идзе иначэй як у прошлам Ка-дэты, што раней надта ужо многа нашумели, цяпер прыцихли саусим. Але за тое надтаж стараецца ужо чорна сотня. Яна нават хочэ каб у Гасударсцвеную Думу выбраць тольки аднаго пасла, а то як пасладь двух, дык барани Божэ памеж них пойдзе разлад. Руских выбаршчыкау больш як жыдоуских.

**Невель** (Вицеб. губ.). Тутака прыгатауляюцца да выбарау неякосць циха. Людзи мала спадзеваюцца дабра ад новай Думы. Тамтэйшые таварыства и суполки так як и ня прыгатауляялися да выбарау.

Раскиданы тольки писульки Вицебскаго фэдэрацпунаго (союзнаго) камитэта „бунда" и р. с.-д. р. п.

**Пецярбург**. У гэтых днях працу хаты № 95—Вяземскай лауры, хтосци выстралиу и смертэльна раниу памошчника пристава трецяго участка Спаскай часци Шэрэметава.

— Шэрэметава недауня перевяли у Пецярбург з Беластока, гдзе, як людзи гаворуць, той самый Шэрэметау устроиу Беластоцки пагром.

**Пецярбург**. Газэта „Бир. Вѣд.“ пишэць аб адним выпадку, каторы дужа напаминаець дзела Гурко-Лидваля. Выпадкам гэтымъ ёсць надта хуткае палучення (1½) паутара мильена рублоу контрагантам ваеннаго и морскога министерству панам Гинсбургам.

Дзела у тым, што Гинсбург запатрэбавау (5) пяць мильенау рублоу але камисия пад прадвадзицельствам п. Шванебаха запытала яго упярод, як ён распараджауся вяликими грашыма, што яму выдавалися падчас вайны з Японияй? На комисю гэту глянули крыва и знайшлася другая;—глауным у гэтай камиси бызу ужо сэнатар Черевански. Ушчот 5 мильенау пану Гинсбургави зараз жэ выдана было (1½) паутара мильена рублоу... Не бывалы поспех!

А тым часам вадомо што каб пан Гинсбург дастау грошы як найхучэй, надта хацелася пэуным асобам.

**Пецярбург**. Таварыщам министра унутрених дзел п. Гурко было празначана на публичные работы для мужыкоу Саратаускай губ. (1600000 руб.) адзин мильен шесць сот тысячау рублёу. Пан Гурко надта налегау на тое каб было празначана столька а не меньш. Цяпер то выяснилася, што ани губэрнатар ани земства стольки ни трэбавали. Гурка записку з абъяснением павинен прыслаць на следствяну камисию.

Яшчэ да перадачы дзела Гурко на следствяну камисию, пан А. Стахович выдрукавау у газэци „Рѣчь“ аткрытую писульку на имя Гурко. У гэтай писульцэ Стахович абъяуляець, што ён першы пачау обвиняць Гурко—дабауляе пры гэтом, што пан Гурко можа будзе смялейшым ад Дурнаво—каторы збаяуся аддаць яго (Стаховича) пад суд за „дзела аб аусе“.

З палучаных газэтау з Далекаго Усходу даведваемся, што дзеецца там штось нядобрае. У Владзивастоцкам гарнизони няспакой. Японцы, ломяць дагавор и украпляюць вострау Сахалин.... Слухи ходзяць уселяки. Гаворань што кроу можа нават зноу палицца.

**У Казанскам павеце** ад голаду памеж мужикоу начинаецца *галодны тыфус*.

**„Каз. Веч.“** пишэць што адпущены хлеб ад казны для мужикоу, каторы раздаюць *земские начальники* тож не надта каб много пападау да мужицких брухау а то и заусим туды не пападаець.

30 губэрни церпяць ад хлебнаго недарода. Правицельства каб памоч галодным пазычыло 55 мильенау ды яшчэ Гасударственная Дума на гэта дала 15 мильенау, а мужики памираюць ад голаду.

(Смол. Вѣст.)

**У Цяцюшскам** павеце у бедных, глухих татарскихъ вёсках недауна *бацьки прадали сваих дочек ад 12 да 17 лет*. Вартасьць кожнай дзяучины ад 100 да 150 рублёу. — *Прычынай такога безбожнаго паступку бызу голад, а за ним и галодна смерць.*

(Каз. веч.

**У Уфимскай губ**. *у Белебеескам, Мэнзалинскам и Уримскам* паветах *панусць тыфус* Голад ужо з сенцябра. Башкиры дык ужо дауно *ядуць ня хлеб, а сурагат*, каторы пякуць з скоцкай пасыпки и каторы ня кожная навэтъ собака будзе есьци. А той хлеб едзяць нават и дзеци.

(Уф. В.

**У Архангельскай губ**. растрывонили нескальки тысяч рублеу тых грошэй, што были адпушчэны гасударсцвеным казначэйствам на тое, каб кармиць палитычных, высланых у тую губэрню. Для разведки аб гэтай справи паслали, усем знагаго бышаго губэрнатара Минскай губэрни Курлова.

**Як уемирали у Лифляндзкай губерни** можна видзець з таго, што ад 6 акцябра да 6 наябра па прыгавору ваенна-палевого суда **было разтрэляно чы павешано 49 чэлавек;** акрамя гэтаго **забитых**: тых, што прабавали уцѣкаць — **17 чэлавек**, тых, што сапрацулялись — **4 чэл.**, бэз паказания прычын— **40 чэл. нехоця убитых—2 чэл.** а разам усяго за адзин месяц забитых 112 чэл.

(Товарищ.)

# Усяго па троху.

Министр унутрених дзел 13 ноября разаслау генэрал-губэрнатарам ось якое распаражэнне:

Списки избирацелёу у Гасударственую Думу павинны быць надрукованы як можна прандзэй. Патрэбные на гэта грошы ужо адпущэны, толька не трэба быць разжутным и глядзець, каб зрабиць эканомию на „литэрах, паперу и формаце." Гэта значиць, што трэба браць паперъ горшый, ды глядзець, штоб яго як можна меньш вышла на тые списки. А каб на маленким паперку змясьцициь вяликий списакъ, так трэба друкаваць маленкими литерами.

Ось яки эканомны министр унутрэних дзел...

Бяда тольки, што ня кожный аднастайне умее эканомиць: адзин дык аж на друкаванню списку избирацелёу эканомиць а другій якъ выясьнилось, па (1,300,000) мильен кидае триста тысячоу рублеу.

Добра хоць тое, што яны у адным министэрстви: што тавариш министра унутрених дзел генэрал **Гурка** разтрывоницць, дык яго начальник, министр унутрених дзел генэрал Сталыпин зъэканомиць...

А тож, барани Божэ, сабралось бы таких два, як генэрал **Гурка**, ды ящэ и разам, — можна было бы прапасць...

**Лидваль** дык вядома цешыуся бы гэтаму, але усё гасударства бы плакала так, як цяпер плачуць, прадаючы сваих жонак и дзяцей за кавалак хлеба, галодные мужыки, для каторых **Лидваль** вязе хлеб...

* * *

— Цяперака усе больш и больш высветляецца, што першую Гасударственую Думу разагнали глаунае дзеля таго, што незахацела празначиць и аддаць 50 мильеноу у руки кабинэту на працавольствяну кампаню и што иначэ глауной прычынай роспуску Думы быу В. І. Гурко.

У няубауки будуць апубликованы надта интарэсные мацерьялы—каторы заусим высветлядь гэта дзела.

## Гоп! Гоп! засьпяваубыб.

Гоп! гоп! засьпяваубыб...
Ой што, што, я таму даубыб
Хтоб зрабиу, каб я васола
Засьпявау: каб у вакола
Загрымели песьняй горы,
Зазванили звонам зоры,
Зашумели лесы цемны,
Задзындзэляли бяздомны
Птушачки... а рэчки, боры
Каб гукали, нибы уторы
А у тым звони, у тым спеви,
Песьни васолай пaвеви,
Кали сьпявалаб уся натура:
Песьня людзкая—панура,
Песьня грозы и праклёнства
Злосьци, пекла, акруцьенства
Сцихлабыб... а уцишы той
Усеб прыслухались сьвятой
Песьни жыцця—бо прыроды,
Песьни шчасця—бо свабоды...
И забылисяб аб горы,
Бо па жыцевым прасторы
Песьня велькаб праляцела
И пхнулаб людзей да дзела...
Эй!.. Эй!.. ня будзець николи
Песьни такой, бо у боли
Трудна на песьню здабыцца
Засьпявай—та аблицца
Треба горкими слязами.
И над нотай и слывами.
И нихто, ништо на свеци
Вяселля ня дасць паэци.
Пакуль боль нас, гора мучыць
Такой песьни хтож навучыць?!..

*Будзицель.*

## Ад рэдакции.

Просим усих наших чытацелеу писаць аб усем, што дзеецца, аб крыудах сваих и радоьсцях, хто як умее.

Кали патрэбна будзе каму якая парада—пытайце—адкажемо.

Ведайце добра, што „Наша Доля"— газэта весковых людзеу.

Прысылаючы грошы трэба канешне адресаваць так: у рэдакцию „Нашае Доли" Вильня, а не на имя быушаго стоража рэдакции Ефстафия Сымоновича, бо ён больш ня служиць и грошы присланые на его имя трэба пераадрэсаваць.

Выдауца ЯН ТУКЕРКЕС Рэдактор АДАМ ГЭЕДВИЛЛО.

Odbijano w drukarni A. G. Syrkina.